КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 6 (327) ◂ 15 лютага ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЧАМУ СЫХОДЗІЦЬ ПАПА

Стар. 12

**УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ: «ЦІ БУДЗЕ ПРЭМІЯ, ЦІ БУДЗЕ ТУРМА»**

Пісьменнік пра новы раман, жыццё і ўладу ў размове з Сяргеем Шапранам

Стар. 4

**БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ**

У абаронцаў палітвязняў ёсць толькі адна форма барацьбы за іх вызваленне — гэта галоснасць. Менавіта галоснасць спрыяе таму, каб палітвязні знаходзіліся ў больш-менш адэкватных умовах утрымання

Стар. 6

**БРАНІСЛАЎ ЯМАНТ — МАСТАК З-ПАД ЛІДЫ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КАЛІ НЕ ЁН, ТО ХТО?**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ АД РЭДАКТАРА

# УРАД РАЗЛІЧВАЕ НА ЗОРКІ

Вольга ХВОІН

**У пачатку года лічбы, што ілюструюць інфляцыйныя працэсы ў Беларусі, амаль наблізіліся да еўрапейскіх. Белстат паведаміў: студзеньская інфляцыя склала 3%. Падвох тоіцца ў адрэзку часу.**




Так, паводле падлікаў Еўрастата, гадавая інфляцыя ў краінах еўразоны склала 2%. Студзеньская інфляцыя апынулася мінімальнай з лістапада 2010 года. Упершыню за гэты перыяд паказчык адпавядае мэтаваму ўзроўню Еўрапейскага цэнтральнага банка.

Беларусь, як бачым, наблізілася ў некаторых лічбавых паказчыках да Еўрасаюза. Праўда, у нас падыход «пяцігодку ў тры гады», то бок гадавы прагноз за некалькі месяцаў. І добра б, каб гэта тычылася нейкіх паказчыкаў кшталту ВУП, вытворчасці ці аб'ёмаў продажу.

Між іншым, у студзені 2012-га цэны ў Беларусі выраслі менш, чым сёлета, — на 1,9%. Цягам першага месяца бягучага года харчовыя тавары падаражэлі на 3,1%. Найбольш узняўся цэннік на гародніну (14,3%), бульбу (8,6%), садавіну (7,7%), пшанічную муку (2,8%), макаронныя вырабы (2,6%). Кошт алкагольных напояў павялічыўся ў сярэднім на 5,9%, тытунёвых вырабаў — на 28,6%. Цэны на нехарчовыя тавары павысіліся на 1,1%. Лідары росту — бензін (5,2%), медыкаменты (2,6%), мэбля, веласіпеды і матацыклы (па 1,1%). Патаннелі, паводле Белстату, абутак (на 0,9%), дываны і дывановыя вырабы (на 0,1%). Тарыфы на платныя паслугі насельніцтву выраслі на 6,1%. У лідарах — кошт паслуг пасажырскага транспарту міжрэгіянальнага спалучэння (23%), рэгіянальнага спалучэння эканомкласа (16,7%), сувязі (22,2%), медыцыны (12,5%), канцэртных залаў (8,1%), санаторна-аздараўленчыя (7%).

Цікава, што па выніках года ўрад разлічвае ўтрымаць рост цэнаў на ўзроўні 12%. Як заявіў 6 лютага намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Голухаў, «задача стаіць, натуральна, укладземся». У сваю чаргу, намеснік старшыні Нацбанка Сяргей Дубкоў адзначыў, што Нацбанк прыкладзе ўсе намаганні для зніжэння стаўкі рэфінансавання да 13–15%.

Але з такімі тэмпамі, як паказаў студзень, гадавы план будзе выкананы цягам некалькіх месяцаў. Хаця кіраўніцтва краіны і айчынная статыстыка ўмеюць паказваць цуды: летась краіна ўпісалася ў план па росту цэн (па выніках года атрымалася 21,8%), а сярэдні заробак па краіне прыгожа наблізіўся да запаветнага эквіваленту ў 500 у.а.

Між іншым, у 2012 годзе рост спажывецкіх коштаў у Беларусі пабіў рэкорд сярод усіх краін СНД — краіна па ўзроўні інфляцыі выйшла на першае месца. Гэтае лідарства Беларусь утрымлівае ўжо другі год запар.

Даследчыкі з Інстытута прыватызацыі і менеджменту (ІПМ) адзначаюць, што інфляцыя мінулага года ў асноўным стала вынікам павышэння коштаў на харчовыя тавары і платныя паслугі насельніцтву. Паводле прагнозаў эканамістаў з ІПМ, чакаецца паскарэнне тэмпаў інфляцыі ў першым паўгоддзі ў сярэднім на 20% штомесяц. Значнае павышэнне прагнозных значэнняў, па-першае, звязана з істотным паскарэннем інфляцыі ў студзені. Па-другое, у прагнозах улічваецца павышэнне тарыфаў на электраэнергію ў лютым і цэн на паслугі грамадскага транспарту ў першым квартале бягучага года.

На тле першых статыстычных звестак пачатку года цікава выглядаюць прагнозы чыноўнікаў наконт ударных тэмпаў росту эканомікі. Так, на 2013-ы год урад пастанавіў выйсці на 8,5% ВУП.

«8,5% — гэта наша мэта, гэта тое, да чаго мы павінны імкнуцца, каб ажыццявіць пэўны прарыў. Рэальнасць такая, што гэта можа здарыцца ў тым выпадку, калі ўсё станоўчыя моманты складуцца, усе зоркі сыдуцца. Гэта наша мэта, мы да яе ідзём», — цытуе намесніка міністра эканомікі Аляксандра Ярашэнку БелаПАН.

Сысціся зоркі для Беларусі мусяць у трох вымярэннях: урад чакае рост экспарту ў параўнанні з мінулым годам на 15,2%, прыстойных аб'ёмаў прамых замежных інвестыцый (хацелася б 4,5 мільярда долараў) і мадэрнізацыі.

У кантэксце апошняга кірунку была прынятая адмысловая пастанова, што прадугледжвае мадэрнізацыю 711 прадпрыемстваў, большасць з якіх знаходзяцца ў дзяржаўнай форме ўласнасці. Мадэрнізацыйныя намеры ўжо ва ўсю адгукнуліся на прадпрыемствах, дзе пабываў кіраўнік дзяржавы: гучнае звальненне дырэктара Мінскага камвольнага камбінату, дэкрэт №9 (згодна з якім на мадэрнізуемых прадпрыемствах дрэваапрацоўчай галіны ўводзіцца прымусовая праца) выклікаў рэзананс нават па-за межамі краіны.

Што тычыцца прыцягнення прамых замежных інвестыцый, то леташні план знайсці 3,7 мільярда долараў інвестыцый праваліўся і рэальна атрымалася прыцягнуць за дзесяць месяцаў толькі 1,2 мільярда долараў. Паколькі «смачных» буйных здзелак з прыватызацыяй беларускіх прадпрыемстваў не плануецца, а агульны клімат у краіне хутчэй палохае, чым прываблівае патэнцыйных інвестараў, выканаць прагноз будзе няпроста.

Затое паведамленні аб падаражанні тавараў, паслуг, тарыфаў з'яўляюцца ад пачатка года рэгулярна, і ўжо мала здзіўляюць. То, можа, так і трэба? Хоць у нечым прагнозы кіраўніцтва дзяржавы мусяць жа выконвацца з апярэджаннем?

ЭКАЛОГІЯ

# НА ЧАЭС АБВАЛІЎСЯ ДАХ

**Афіцыйны сайт Чарнобыльскай атамнай станцыі паведамляе пра пазаштатную сітуацыю: удзень 12 лютага адбылося «частковае разбурэнне сценавых панеляў і часткі даху» машыннага залу энергаблоку №4.**

Пацярпелых няма. Плошча разбурэнняў склала каля 600 квадратных метраў, аднак, паводле афіцыйнай інфармацыі, гэта ніяк не паўплывала на радыяцыйны фон на аб'екце, а саркафаг не быў пашкоджаны.

Тым не менш, французскія кампаніі эвакуявалі сваіх супрацоўнікаў з ЧАЭС, патлумачыўшы гэта менавіта інтарэсамі бяспекі.

«З пункту гледжання радыяцыйнай бяспекі і іншых абставінаў, якія могуць прывесці да паўторнага радыеактыўнага забруджвання, гэта сапраўды не вельмі складаная сітуацыя, — лічыць былы міністр экалогіі і ядзернай бяспекі Украіны Юры Кастэнка, — таму што на аб'екце «Сховішча» ўжо ўсталявана і працуе сістэма пылападаўлення. І сістэмы, якія датычныя ядзернай бяспекі, пажарнай бяспекі, там былі ўсталяваныя. Але наколькі выкід у сувязі з абрынаннем канструкцыі прывёў да паўторнай забруджанасці, пакуль яшчэ казаць рана. Той працэс, якім пайшлі на шляху будаўніцтва «Сховішча–2», не дасць магчымасці Украіне вырашыць усе праблемы. Таму што гэта свайго кшталту сховішча ад грамадства чарнобыльскіх праблемаў, і абрынанне гэтай канструкцыі якраз і пацвярджае няслушнасць падыходу ў рашэнні чарнобыльскай праблемы. Накрыць тое, што завецца разбураным рэактарам, яшчэ адным саркафагам — гэта не рашэнне тых пытанняў, якія паставіў Чарнобыль перад Украінай і чалавецтвам».

«Нават калі не памяняўся радыяцыйны фон, гэта трывожны сігнал, — заявіў «Інтэрфаксу» кіраўнік энергетычнай праграмы «Грынпіс Расія» Уладзімір Чупроў. — Калі паваліліся панелі ў машыннай залі, то ў прынцыпе няма гарантыі, што ў бліжэйшы час не пачне разбурацца саркафаг, пабудаваны ў 1986 годзе. Самая вялікая праблема саркафага — дробнадысперсны пыл, які збіраецца ўнутры канструкцыі. Гэты пыл ад пачатку радыеактыўны. У выпадку яго распаўсюджвання, ён будзе прадстаўляць небяспеку, разносіцца на дзясяткі кіламетраў. Магчыма лакальнае забруджванне», — адзначыў Чупроў.

Паводле Радыё «Свабода»

ПАМЯЦЬ

# ПАЎГОДА ДЛЯ КУРАПАТАЎ

Марат ГАРАВЫ

**Не менш за шэсць месяцаў спатрэбіцца для распрацоўкі дэталёвага плана тэрыторыі вакол Курапатаў.**



Пра гэта 13 лютага на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу «Курапаты» заявіў намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Аляксандр Юшкевіч.

У сустрэчы ўдзельнічалі каардынатар ініцыятывы Ганна Шапуцька, сябра ініцыятывы і міжнароднага «Мемарыялу» Уладзімір Рама초ўскі, а таксама супрацоўнікі Мінаблвыканкама, міністэрстваў культуры і эканомікі.

Прадстаўнікі грамадскасці звярнулі ўвагу чыноўнікаў на тое, што сам факт будаўніцтва каля народнага мемарыялу рэстаранна-забаўляльнага комплексу з назвай «Бульбаш-хол» абражае нацыянальныя пачуцці беларусаў. Удзельнікі ініцыятывы падкрэслілі, што лічаць несумяшчальным знаходжанне побач такіх розных па свайму прызначэнню аб'ектаў, як рэстаранна-забаўляльны комплекс і Курапаты, а таксама заявілі, што любыя праекты мемарыялізацыі ва ўрочышчы і забудовы прылеглай да яго тэрыторыі павінны ўзгадняцца з грамадскасцю.

Сябры ініцыятывы адзначылі, што не валодаюць поўнай інфармацыяй пра распрацоўку праекту дэталёвага плану тэрыторыі, якая адносіцца да Курапатаў, у тым ліку наконт «актуальных», па вызначэнню чыноўнікаў, межаў помніка і яго ахоўных зонаў — ахоўнай і рэгулюемай забудовы.

Начальнік упраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва камітэта архітэктуры і будаўніцтва Мінаблвыканкама Анатоль Вага паведаміў, што 4 домікі, узведзеныя забудоўшчыкам «Бульбашхолу» СТАА «БелРэст Інвест» у ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці, будуць «перанесены, знесены ці зменяць свае функцыі». Паводле яго слоў, паколькі дэталёвы план тэрыторыі вакол Курапатаў з'яўляецца складаным комплексным горадабудаўнічым праектам, яго распрацоўка зойме яшчэ паўгода. Разам з тым Вага адзначыў, што прадстаўнікі ініцыятывы змогуць удзельнічаць у грамадскім абмеркаванні гэтага праекту.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СКАРГА ДАГЭТУЛЬ НЕ РАЗГЛЕДЖАНА

**Адвакат Станіслаў Абразей, які бараніў расстралянага Уладзіслава Кавалёва, звярнуўся да старшыні Вярхоўнага суда з патрабаваннем неадкладна разгледзець наглядную скаргу.**

Гэта мусіла быць зроблена не пазней як у кастрычніку мінулага года. Але адвакат не атрымаў ніякага адказу да гэтага часу. Пра зварот Станіслава Абразея да старшыні Вярхоўнага суда распавяла маці Уладзіслава Кавалёва.

Любоў Кавалёва лічыць пратэрміноўку з адказам на наглядную скаргу ўжо далёка не першым, а чарговым парушэннем заканадаўства адказнымі службовымі асобамі:

«Наглядную скаргу накіроўваў адвакат Станіслаў Абразей, было гэта 27 верасня 2012 года. Яму ж мусілі даслаць адказ не пазней як праз месяц, бо матэрыялы судовай справы для дадатковага вывучэння затрабаваныя не былі. Адказу адвакату няма дагэтуль. Я не веру ў вінаватасць сына, лічу судовае рашэнне неправасудным, смяротнае пакаранне — беспадстаўным, але са свайго боку не магу нічым паспрыяць у гэтай справе: у СІЗА КДБ тройчы зніклі даверанасці, якія мусіла падпісаць кіраўніцтва гэтай установы, каб я таксама магла прадстаўляць інтарэсы Улада. Я мяркую, што даверанасці зніклі не выпадкова, а каб абмежаваць мае намаганні ў барацьбе за жыццё сына, а потым — за ягонае сумленнае імя. Дарэчы, і даверанасці — не адзінае, што патаемным чынам знікла ў СІЗА КДБ. Зніклі і запісы Уладзіслава, якія ён вёў падчас судовага працэсу. Мне так і не ўдалося высветліць, дзе зараз тыя паперы, хто іх знішчыў або прысвоіў з невядомымі мэтамі».

Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва расстралялі ў сакавіку 2012 года.

Паводле spring96.org

ДАПАМОГА

# ДЗЯРЖАЎНАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ ДАМОВА

Аксана КОЛБ

**З гэтага года закон «Аб сацыяльным абслугоўванні» пачаў дзейнічаць у новай рэдакцыі. У яго ўведзены панятак «дзяржаўная сацыяльная замова» і шмат іншых пунктаў, якія дазваляць дзяржаве парытэтна супрацоўнічаць з НДА.**

Менавіта дзяржаўнай сацыяльнай замове як магчымасці развіцця сацыяльных паслуг насельніцтву і было прысвечана пасяджэнне прэсклуба, што адбылося 13 лютага ў Міжнародным адукацыйным цэнтры (ММОЦ). Сутнасць новаўвядзенняў у закон і іх неабходнасць патлумачыла журналістам кіраўнік аддзела развіцця і каардынацыі сацыяльнай дапамогі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Таццяна Фёдарава.

Дык што ж гэта такое — дзяржаўная сацыяльная замова? З кожным годам колькасць пажылых людзей у нашай краіне расце, і з кожным годам усё больш вострай становіцца праблема сацыяльнага абслугоўвання састарэлых. Толькі за мінулы год у Беларусі адчыніліся два дамы-інтэрнаты для састарэлых, і цяпер такіх установаў у краіне 79. З кожным годам расце і колькасць людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Усім ім патрэбны догляд. І добра, калі ёсць неабыякавыя родныя. У Міністэрства працы і сацыяльнай абароны на ўсё і ўсіх грошай у яго не хапае. Таму дзяржава нарэшце ўзгадала пра грамадскія некамерцыйныя арганізацыі.

З гэтага года дзяржава ў выглядзе мясцовых органаў улады можа выступаць замоўнікам сацыяльных паслуг. А выканаўцам будуць НДА, якія змогуць займацца тым, чым і займаліся, — дапамагаць людзям, толькі ранейшыя валанцёры змогуць атрымаць зарплату з дзяржаўнай кішэні. Законам прадугледжана дзяржаўнае субсідаванне дзяржзамовы выключна на заробкі і адлічэнні на заработную плату.

Наогул, новая рэдакцыя закона выканана па ўсіх міжнародных стандартах. Сам працэс замовы і аказання паслуг даволі прапрацаваны і ўлічвае амаль усе нюансы. І можна было б парадавацца за тых неабыякавых людзей, якія дагэтуль рабілі дабро амаль за дзякуй. Цяпер яны змогуць атрымаць за гэта хоць не вельмі вялікія, але грошы. Шматлікія НДА, што працуюць у сацыяльнай сферы, змогуць пашырыць сваю дзейнасць, і нават больш шырока працаваць з замежнымі інвестарамі — юрыдычная аснова для гэтага ёсць.

А вось ці ёсць аснова палітычная? Падкрэслю, замоўнікамі будуць мясцовыя органы ўлады, яны павінны вызначаць шляхам маніторынгу, якія сацыяльныя паслугі больш патрэбныя тут і цяпер, правесці конкурс сярод магчымых выканаўцаў і пракантраляваць выкананне паслугі. Зверху не будзе ніякіх указанняў і тлумачэнняў. І вось цікава, ва ўмовах, калі мясцовая ўлада фактычна невыбарная і не мае патрэбы ва ўхваленні насельніцтвам, ці стане яна замарочвацца нейкімі там НДА, маніторынгамі і конкурсамі? Тым больш, што фінансаваць тую дзяржаўную сацыяльную замову давядзецца з мясцовага бюджэту…

ПРАГРАМА

# ШОСТЫ ЭТАП ПАДТРЫМКІ БЕЛАРУСІ

Сяргей ПУЛЬША

**Прадстаўнікі Германіі прэзентавалі ўжо шосты этап праграмы падтрымкі Беларусі «Пераадольваючы межы».**

У рамках гэтага этапу пры падтрымцы Федэральнага ўраду Германіі павінна ажыццявіцца 30 праектаў. Бюджэт гэтай часткі праграмы — 2 мільёны еўра.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня сходу заснавальнікаў Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра Маціяс Цюмпель, праекты плануецца ажыццявіць у сферах нефармальнай адукацыі, інавацый у сістэме аховы здароўя і сацыяльнай сферы, устойлівага развіцця на мясцовым, рэгіянальным і нацыянальным узроўнях, а таксама навакольным асяроддзі і энергаэфектыўнасці.

Гэтая праграма падтрымкі — афіцыйная, яна ўзгоднена з МЗС Беларусі. Нямецкае фінансаванне атрымліваюць праекты, якія распрацаваныя беларускімі НДА сумесна з нямецкімі партнёрамі. Адпаведна, усе беларускія арганізацыі павінны быць зарэгістраваныя беларускім Мінюстам.

Дырэктар праграм адукацыйнага цэнтра Петэр Юнге-Вентруп зазначыў, што мэта праекту — падтрымаць своеасаблівыя «масты, якія ўзводзяць ініцыятывы грамадзянскай супольнасці». «Ва ўзвядзенні мастоў разумеецца і тое, што дзяржаўныя органы Беларусі таксама падтрымліваюць гэтую праграму і ўдзельнічаюць у ёй», — адзначыў ён.

Менеджар адукацыйных праграм Марцін Шон-Чанішвілі ў сваю чаргу адзначыў поспех папярэдніх этапаў праграмы ў наладжванні партнёрскіх адносінаў паміж дзяржавай і НДА ў Беларусі. У выніку падобных праграм, па ягоным меркаванні, афіцыйны Мінск пачаў працаваць над зменамі ў заканадаўстве: у прыватнасці, над законапраектамі аб дзяржаўным сацыяльным заказе і аб дзяржаўна-прыватным партнёрстве.

У цэлым жа выступоўцы адзначылі прагрэс беларускіх НДА за 10 гадоў. Калі раней НДА былі «валанцёрскімі», то зараз яны моцна структураваныя, маюць свае мэтавыя групы, штаты супрацоўнікаў і пэўнае фінансаванне. Адпаведна, і праекты ў іх выраслі з дробных мясцовых да акцый усебеларускага маштабу. І таму зараз дзяржава павінна звяртаць увагу і ісці на дыялог з НДА, чаму германская праграма павінна паспрыяць.

Варта адзначыць, што сама праграма існуе ўжо дзесяць гадоў. За гэты час рэалізавана 160 розных праектаў. Не быў рэалізаваны толькі адзін праект — і тое толькі таму, што нямецкі партнёр адмовіўся ад удзелу. За ўсе 10 гадоў на рэалізацыю праектаў нямецкі ўрад патраціў каля васьмі мільёнаў еўра.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ВЫКЛІКІ БЕЗ АДКАЗУ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні ўлада ліхаманкава шукала адказы на «выклікі сучаснасці». Аляксандр Лукашэнка тэрмінова паляцеў да Пуціна ў Сочы, скамячыўшы ранейшы графік.**




У прыватнасці, не адбылося запланаванае на 11 лютага пасяджэнне Савета па развіцці прадпрымальніцтва з удзелам прэзідэнта. Уладзімір Макей працаваў на «заходнім фронце» на нефармальным саміце кіраўнікоў МЗС краін Усходняга партнёрства. Мясніковіч у той час прымаў віцэ-прэм'ера РФ Аркадзя Дварковіча.

Рэагаваць сапраўды ёсць на што. На Беларусь зараз ціснуць і з Захаду, і з Усходу. Падобна, усе зноў зайздросцяць «беларускаму эканамічнаму цуду».

Напрыклад, ЗША ўвялі санкцыі «ў сувязі з парушэннем рэжыму нераспаўсюджвання ядзернай зброі» датычна двух беларускіх прадпрыемстваў. Гаворка ідзе аб кампаніі «ТМ Сервісіз» і рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве КБ «Радар». Спіс быў апублікаваны Дзяржаўным дэпартаментам ЗША.

Таксама ў «чорны спіс» патрапілі чатыры кампаніі з Кітая, па дзве — з Ірана і Судана, па адной — з Сірыі і Венесуэлы. Санкцыі ўведзеныя таксама супраць шэрагу грамадзян Кітая і Ірана.

Сваё рашэнне Дзярждэпартамент патлумачыў наяўнасцю «дакладнай» інфармацыі пра тое, што гэтыя асобы і кампаніі перадавалі або атрымлівалі ад Ірана, Паўночнай Карэі і Сірыі абсталяванне і тэхналогіі, уключаныя ў спісы шматбаковых рэжымаў экспартнага кантролю, альбо іншым чынам уносілі матэрыяльны ўклад у праграмы распрацоўкі зброі масавага знішчэння або крылатых і балістычных ракет.

**Усюды праблемы: і расійскія прэтэнзіі, і заходнія санкцыі, і амерыканскія спісы. Нашы кіраўнікі вельмі стараюцца іх вырашыць. А беларусы чакаюць і зацягваюць паясы**

Ну пры чым тут ядзерная зброя? Якая можа быць ядзерная зброя ў Беларусі? Зразумела ж, што гэта — проста зайздрасць. Што нашы прадпрыемствы працуюць на тых рынках, куды ЗША шлях закрыты! Вось яны і прыдумалі нагоду — ядзерная зброя, крылатыя ракеты. Ды нашы гэтыя крылатыя ракеты хіба што па тэлевізары бачылі!

Там часам на гэтым тыдні Нідэрланды не выключылі ўвядзення эканамічных санкцый супраць Беларусі. Пра гэта 11 лютага ў Варшаве заявіў міністр замежных спраў гэтай краіны Франс Цімерманс. Аднак, паводле яго слоў, галоўныя намаганні Галандыя будзе накіроўваць на падтрымку грамадзянскай супольнасці, бо пакуль няма адназначнага меркавання наконт эфектыўнасці эканамічных санкцый.

Ну якія могуць быць эканамічныя санкцыі з боку Нідэрландаў, што стаяць на першым месцы па экспарту з Беларусі нафтапрадуктаў? Няўжо, адмовяцца яны ад гэтых нафтапрадуктаў?

Туды ж кінулася і Украіна, якая плануе пачаць расследаванне ў адносінах да беларускіх нафтапрадуктаў, у выніку чаго на беларускую прадукцыю могуць быць уведзеныя ўвазныя пошліны. Пяць заводаў павінны падпісаць адпаведныя скаргі. Яны ўжо атрыманы ад Крамянчугскага, Надзвірнянскага і Драгобычскага НПЗ, якія падкантрольныя групе «Прыват» Ігара Каламойскага, і ад Шэбелінскага НПЗ. «ТНК-ВР Украіна» і «Лукойл-Адэскі НПЗ» у гэтым спісе няма.

Калі расследаванне пачнецца, цікава, з чым застанецца Украіна. Бо яна — другі пасля Галандыі пакупнік беларускіх нафтапрадуктаў.

У прынцыпе, Украіна і Галандыя могуць пачакаць, пакуль пастаўкі беларускіх нафтапрадуктаў ляснуцца самі сабою. Як паведаміў віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, лёс паставак расійскай нафты ў Беларусь у другім і наступных кварталах 2013 года праясніцца не раней за сакавік. «Перамовы ў нас ідуць перманентна, яны не спыняліся, але ў сакавіку мы маем намер ушчыльную вярнуцца да гэтай тэмы», — заявіў Сямашка. А не будзе нафты — не будзе і бензіну.

А зараз нафту ў абмен на пацалункі здабыць не атрымаецца. Расія зразумела, што можа патрабаваць ад Беларусі. І патрабуе.

Віцэ-прэм'ер РФ Аркадзь Дварковіч у Мінску заявіў, што Расія і Беларусь у бліжэйшы час у чарговы раз правядуць перамовы па стварэнні альянсу на базе МАЗа і КАМАЗа. «Мы дамовіліся, што ў бліжэйшыя тыдні будуць праведзены інтэнсіўныя перамовы па ўсіх напрамках, перш за ўсё гэта тычыцца такіх праектаў, як МАЗ і КАМАЗ і магчымая інтэграцыя «Гродна-Азота» з адной з расійскіх кампаній», — сказаў Дварковіч.

Ён дадаў, што таксама абмяркоўваецца магчымасць стварэння сумесных кампаній на базе ВА «Гомсельмаш» і аднаго з беларускіх прадпрыемстваў мікраэлектронікі. З расійскага боку ў інтэграцыйных праектах будуць удзельнічаць «ГЛОНАСС» і Цэнтр «Сколкава».

Камбайн «Палессе» з сістэмай «ГЛОНАСС» на борце і з нанатэхналогіямі «Сколкава» — гэта будзе вельмі крутая машына. Беражыцеся, амерыканскія і еўрапейскія канкурэнты! Галоўнае, каб зараз з такімі тэхналогіямі сам «Гомсельмаш» не патрапіў пад амерыканскія санкцыі за распаўсюд высокатэхналагічнай ядзернай зброі. Але ж, здаецца, міні-рэактара на гомельскіх камбайнах канструкцыяй не прадугледжана.

Усе гэтыя праблемы патрабуюць вырашэння. І расійскія прэтэнзіі, і заходнія санкцыі, і амерыканскія спісы. Таму нашы кіраўнікі вельмі стараюцца іх вырашыць. А беларусы чакаюць, і некаторыя пакрысе зацягваюць паясы. На гэты раз — добраахвотна, без усялякіх заклікаў з боку ўлады.

13 лютага ў каталікоў распачаўся Вялікі пост. Па традыцыі, адбываецца гэта ў сераду, якую называюць Папяльцовай. У час Вялікага посту ў касцёлах адбываюцца набажэнствы на ўшанаванне Мукі Езуса Хрыста. У парафіях праходзяць таксама рэкалекцыі — некалькі дзён асабліва прысвечаных Богу, малітве, разважанню над верай, жыццём і адносінамі з людзьмі. Важна памятаць, што пост — гэта таксама міласціна і добрыя ўчынкі.

Што датычыць абмежаванняў у ежы, то на сучасным этапе Касцёл патрабуе ад вернікаў (усіх здаровых людзей ад 18 да 60 гадоў) сціслага посту (адзін раз паесці дасыта на працягу дня) толькі два разы на год: у Папяльцовую сераду і ў Вялікую пятніцу. У іншыя дні асаблівых прадпісанняў няма. Кожны вернік можа сам абраць сабе пастановы на пост, каб глыбей перажыць гэты час.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МЕЛІТА СТАНЮТА



Тры залатых і два срэбных медалі на этапе Кубка свету па мастацкай гімнастыцы заваявала Меліта Станюта. Яна перамагла ў практыкаванні з мячом, булавамі і стужкай. Таксама яна заваявала срэбную ўзнагароду ў практыкаванні з абручом, паведамляе афіцыйны сайт Беларускай асацыяцыі гімнастыкі. У індывідуальным мнагабор'і па суме чатырох практыкаванняў (з абручом, мячом, булавамі і стужкай) 19-гадовая Меліта Станюта заняла другую прыступку п'едэсталу.

Пераможцам этапу Кубка свету ў індывідуальным мнагабор'і стала аднагодка Станюты ўкраінка Ганна Рызатдзінава, а бронза дасталася гімнастцы з Азербайджана Марыне Дурунда.

Індывідуальнае мнагабор'е з'яўляецца алімпійскай дысцыплінай мастацкай гімнастыкі. Пасля таго, як у канцы 2012 года завяршыла спартыўную кар'еру бронзавая медалістка лонданскай Алімпіяды–2012 Любоў Чаркашына, 19-гадовая Меліта Станюта становіцца першым нумарам і лідарам нацыянальнай каманды Беларусі сярод спартсменак, што выступаюць асобна. У 2013 годзе Міжнародная федэрацыя гімнастыкі выдала правы на правядзенне васьмі этапаў Кубка свету Эстоніі, Партугаліі, Румыніі, Італіі, Балгарыі, Францыі, Расіі і Беларусі.

### ІГАР ВАСІЛЬЕЎ



Былы першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Васільеў асуджаны да 14 гадоў пазбаўлення волі. Такое рашэнне вынес 11 лютага Мінскі абласны суд. Былы буйны чыноўнік абвінавачаны ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 430 КК (атрыманне хабару асобай, якая займае адказную пасаду, у асабліва буйным памеры).

Паводле дадзеных следства, Васільеў быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ у ліпені 2012 года па падазрэнні ў вымагальніцтве хабару ў 500 тысяч долараў ЗША ў прадстаўнікоў чэшскага інвестара за спрыяльнае вырашэнне пытання, якое ўваходзіць у кампетэнцыю чыноўніка і звязанага з заключэннем інвестыцыйнай дамовы на будаўніцтва пад Мінскам смеццеперапрацоўчага завода. Перадача грошай павінна была ажыццяўляцца двума часткамі па 250 тысяч долараў. Васільева затрымалі ў службовым кабінеце пасля атрымання першай часткі хабару, паведамляе БелаПАН.

Віну ў атрыманні хабару Васільеў у судзе не прызнаў. Большая частка судовага працэсу прайшла ў закрытым рэжыме.

Ігар Васільеў быў прызначаны на пасаду першага намесніка старшыні Мінгарвыканкама восенню 2010 года па ўзгадненні з кіраўніком дзяржавы. У Мінгарвыканкаме ён курыраваў працу аддзелаў гарадской гаспадаркі і энергетыкі. Да працы ў гарвыканкаме Васільеў быў дырэктарам Мінскага камбіната сілікатных вырабаў.

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына падчас анлайн-канферэнцыі ў «Народнай газеце» заявіла, што ніколі не пойдзе на тое, каб стварыць сваімі рукамі ўмовы для якой-небудзь «аранжавай» вясны, восені або зімы.

У прыватнасці, распавядаючы пра змены ў выбарчым заканадаўстве краіны, чыноўніца заявіла, што не плануецца ўвесці норму, што дазволіць абскарджваць у судзе вынікі выбараў:

— Судовая цяжба заўсёды звязана са станам нявызначанасці, што можа доўжыцца невядома колькі і абавязкова цягне за сабой стан нестабільнасці. А менавіта пасля выбараў грамадства мае патрэбу ў стабільнасці больш чым калі-небудзь. Таму я ніколі не пайду на тое, каб стварыць сваімі рукамі ўмовы для якой-небудзь «аранжавай» вясны, восені або зімы.

Таксама Лідзія Ярмошына паведаміла, што плануецца закласці такое правіла, «каб не менш як дзве трацiны перадвыбарнага выступлення кандыдатаў, па меншай меры, тых выступаў, якія дае ім дзяржава за бюджэтныя сродкі, павінна складаць праграма яго будучай дзейнасці. Пакуль жа ў апазіцыйных партый толькі адзін лозунг і адна ідэя, а тэксты напісаныя нібы пад капірку, змяняецца толькі карцінка з кандыдатам». Верагодна, патэнцыйныя ўдзельнікі выбарчага працэсу не змогуць карыстацца і такім інструментам, як байкот выбараў.

Лідзія Ярмошына таксама распавяла, што яе заробак прыкладна такі ж, як і ў дэпутата Палаты прадстаўнікоў: у месяц выходзіць 10,5 мільёна рублёў. Ёсць яшчэ пенсія — каля двух мільёнаў рублёў.

▸ З НАГОДЫ

# Уладзімір Някляеў: «ЦІ БУДЗЕ ПРЭМІЯ, ЦІ БУДЗЕ ТУРМА...»

**У дні, калі судзілі будучага нобелеўскага лаўрэата Іосіфа Бродскага, Ганна Ахматава заўважыла: улада не разумее, што тым самым «нашаму рыжаму робіць біяграфію». Гэты бліскучы афарызм прыгадаўся адразу, як толькі стала вядома, што прэзентацыя новага рамана Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» можа быць сарваная. Невялічкая аўтограф-сесія, некалькі інтэрв'ю, і Уладзімір Някляеў быў вымушаны пакінуць выставу.**



Фота аўтара

***— Уладзімір Пракопавіч, наколькі ведаю, ідэя прэзентацыі рамана «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» сыходзіла не ад вас?***

— Сам я, разумеючы няпростасць сітуацыі, якая можа скласціся, ні пра якую прэзентацыю не думаў... Бачыш, нават рыфмуецца: прэзентацыя-сітуацыя. Якая сітуацыя — такая прэзентацыя. (*Усміхаецца*). Аднак лёс твора пасля таго, як ён напісаны, залежыць ужо не ад цябе. Ад выдаўцоў, распаўсюднікаў, а ўрэшце — ад чытачоў. Дзеля іх журы конкурсу на літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца, у лонг-ліст якой патрапіў раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», і наладзіла прэзентацыю рамана на Міжнароднай кніжнай выставе. Дакладней, паспрабавала наладзіць, бо як толькі інфармацыя пра гэта з'явілася ў СМІ, з боку ўлады пачаліся захады, скіраваныя на тое, каб прэзентацыю сарваць, забараніць. І ёй гэта ўдалося — хто б меў сумнеў... Тым самым ёй удалося яшчэ раз паказаць сябе перад светам уладай дзікунскай не толькі ў палітыцы, але і ў культуры. На выставе побач са стэндам Польшчы, дзе павінна была адбыцца прэзентацыя рамана, стэнды ЗША, Італіі, іншых краін, выдаўцы з якіх, гледзячы на тое, што адбывалася, проста вачам сваім не верылі. Усё жыццё займаючыся кніжным бізнэсам, яны ўявіць не маглі такога, каб з выставы выганялі аўтара, не дазвалялі выставіць ягоныя кнігі. Для чаго і для каго тады выстава? Для чыноўнікаў, якія і сарвалі прэзентацыю, ці то выконваючы загад, ці то праявіўшы ўласную ініцыятыву?..

***— З падобнай дзікунскай рэакцыяй улады вы, здаецца, сутыкаецеся ўпершыню — нават з вашым раманам «Лабух» такога не было...***

— З «Лабухам» так не было, бо я наўпрост тады яшчэ не займаўся палітыкай. Усё, што адбылося на Міжнароднай кніжнай выставе ў Мінску з раманам «Аўтамат з газіроўкай...», да самога рамана не мае ніякага дачынення, ніяк не звязана з літаратурай. Выключна з палітыкай. І яшчэ з дуратой. Паслужлівыя дурні — праблема значна большая за праблему кепскіх дарог. У нас яна, гэтая праблема, паглыбляецца яшчэ і тым, што сама сённяшняя ўлада паслужлівых дурняў і прадукуе. Нават калі ў яе трапляе нармальны чалавек, перад ім вельмі хутка паўстае дылема: ці сыходзіць, ці разам з усімі ў падкіднога гуляць. Бо інакш ён хто? Надта разумны? Разумнейшы за само ўвасабленне дзяржаўнага розуму? Што ж, тады давайце пабачым, што мы маем на нашага разумніка ў сабраным на яго дасье... О, якая тут літаратура! Куды там нейкаму раману пра аўтамат з газіроўкай...

***— Ваш раман, па-мойму, яшчэ і пра ўладу. Таму, можа быць, і такая рэзкая рэакцыя...***

— Ды няма там нічога такога, каб гэтак рэагаваць! Брутальна. Калі да брутальнасці ў палітыцы хочаш — не хочаш, а звыкаеш, проста яна ёсць такая, якая ёсць, і нямашака іншай, дык да брутальнасці ў больш тонка арганізаваных рэчах, у той жа літаратуры, — не звыкнуць ніяк. Дый звыкаць нельга... Зрэшты, нельга да такога звыкаць і ў палітыцы. Ні ў чым. Адна з нашых праблем менавіта ў тым, што мы да ўсяго звыклі. Да хамства, пошасці, ідыятызму... Невыпадкова ў рамане ёсць частка пра жыццё ў дурдоме. Наколькі вясёлае, настолькі трагічнае.

Ведаеш, займаючыся адначасова літаратурай і палітыкай, я ўсё ж займеў унікальны досвед. Вось з яго і стаўся менскі раман — і яшчэ нешта станецца. Калі Бог дасць.

***— Ваша новая кніга ўжо займела сваю біяграфію, свой адметны лёс.***

— Так... І Бог спрычыніў да гэтага Міністэрства інфармацыі. (*Смяецца*). На выставе тысячы кніг і сотні аўтараў, а яно, міністэрства, выбрала кнігу Някляева. Што ж, няхай чытае... Хоць калі я пісаў раман, я рабіў гэта не для некага, а выключна для сябе. Літаратура — занятак, ад якога не хачу нічога і нічога не чакаю, апроч самога занятку. Бо ён адзіны, ад якога маю асалоду. Палітыка ж — праз самапрымус, праз сілу. Зрэшты, большасць людзей праз сілу і жывуць. Робячы выгляд, што нешта любяць, з некім сябруюць, некага кахаюць. Не сябруючы і не кахаючы, блізка не ведаючы, што гэта такое. І нават не ўсведамляючы, што не ведаюць гэтага. Менавіта ў імітацыі жыцця, у падробках пад жыццё ці не ўсе чалавечыя драмы і ці не ўсе камедыі... Пра гэта я, а канкрэтна пра падробку кахання, некалі паэму напісаў. «Маланка» паэма называецца...

***— А ваш раман — гэта, калі вызначаць жанрава, што?***

— Бадай, меладрама. Я люблю меладраму як жанр — і спакойна ў тым прызнаюся.

Не варта ў жыцці прыкідвацца. Піць каву, калі яе не любіш. Бо нехта ў гэты час вып'е тваю гарбату з тваім любімым сунічным сочывам.

***— А гэтакім сунічным сочывам хіба не з'яўляюцца для пісьменніка ўзнагароды, прэміі за напісаныя творы? Вось Марыя Мартысевіч піша ў рэцэнзіі на ваш раман: «Літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца варта было прыдумаць хоць бы для таго, каб Уладзімір Някляеў напісаў свой другі раман».***

— Марыя Мартысевіч напісала вышкталцоную рэцэнзію, якая вышкталцоная найперш тым, што яна не столькі рэцэнзія, колькі гэтакае лятучае эсэ з нагоды з'яўлення менскага рамана, але тады, калі я пачынаў раман, пра прэмію імя Гедройца не было і размовы...

Не стану казаць, што да таго, як ацэньваецца напісанае мной, я зусім абыякавы. Гэта была б поза, няпраўда. Калі твой твор выходзіць, што называецца, у людзі, то, безумоўна, мае значэнне, што пра яго людзі скажуць. Як ацэняць, адзначаць. «Павінна ж быць і ў зайца радасць перад халоднаю зімой...» — як пісаў Уладзімір Караткевіч, які стаў, між іншым, адным з персанажаў менскага рамана. І тым не менш ніякія знешнія праявы, звязаныя з той ці іншай кнігай, няхай нават яны спрэс узнагародна-прэміяльныя, — ніштो ў параўнанні з унутранымі адчуваннямі ў імгненні стварэння... Я пішу менавіта дзеля такіх імгненняў — і пішу толькі тады, калі гэтак сябе ў тых імгненнях адчуваю. Не пачуваюся так — не пішу. І не да галавы мне, калі пішу, што будзе з напісаным. Ці будзе прэмія, ці будзе турма. Тым больш, што ўсё ўжо было. Дык што там нейкая сарваная прэзентацыя... Таму пастараўся аднесціся як мага болей стрымана да таго, што адбылося на Міжнароднай кніжнай выставе ў Мінску.

***— Як сведка, магу сказаць, што вам гэта ўдалося. У адрозненне ад арганізатараў выставы, вы паводзілі сябе годна. Хоць, здавалася, блізка ўжо было да бойкі...***

— Вось-вось, мне назаўтра Уладзімір Падгол патэлефанаваў і спытаў, чаму я не бараніў свае правы быць на выставе больш рашуча? Не біўся... Якая бойка? Стаць гэткім жа, як яны?.. Ты ж бачыў: там яшчэ трохі — і пачалося б... А гэта ж не вуліца, не завугольле. Нельга было дапусціць, каб да таго, што мне дарагое, а менскі раман для мяне дарагі, хоць неяк прыляпілася брыда.

***— У звязку з вашай гісторыяй прыгадваецца лёс гарадзенскага гісторыка Барыса Клейна, сябра Васіля Быкава. На пачатку 1970-х ён адмовіўся ўдзельнічаць у антысеміцкай кампаніі, у выніку быў не толькі звольнены з працы і пазбаўлены вучонай ступені і звання — нават з Гародні яму не дазволілі з'ехаць. «Вы будзеце маячыць на гарадзенскіх вуліцах як цень. Каб усе бачылі, які лёс чакае таго, хто пойдзе супраць нас», — сказаў яму тады сакратар Гродзенскага абкама. Не думаеце, што з вас таксама спрабуюць зрабіць падобны «цень»?***

— Розныя ёсць людзі — і розныя ёсць цені. Напрыклад, цень бацькі Гамлета...

Адразу пасля таго, як была, скажам так, падаўленая наша прэзентацыя, пачалася прэзентацыя іншая — з удзелам праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі. Не выключаю, што якраз для таго, каб паказаць: вось яны, правільныя, чэсныя пісьменнікі — і ўсё ў іх добра. Сталы, крэслы, гукаўзмацняльная апаратура... (*Усміхаецца*). Не шчасціць мне з гукаўзмацняльнай апаратурай... Перад Плошчай пабілі, на прэзентацыі адключылі... А на стэндзе правільных пісьменнікаў хацелі нам з табой паказаць: калі будзеце служыць, дык не будуць ні біць, не адключаць. Чуў, як яны галёкалі пра дасягненні?.. (*Усміхаецца*.)

***— Мяркую, Уладзімір Пракопавіч, іх прэзентацыя адразу пасля сарванай вашай — гэта ўсё ж сімвалічнае супадзенне.***

— Лічыш, што сцэнар такі ім не прыдумаць? Не цягнуць на такое «дасягненне?..» (*Усміхаецца*.) Ну, сыдземся на тым, што гэта была сімволіка. Дык вось сімвалічна ўяві: я ў тым шэрагу. Параперадзе. Усіх саюзаў старшыня і ўсіх прэміяў лаўрэат. Ды яшчэ ў генеральскіх пагонах. (*Доўга маўчыць*). Жах...

***— Але вы не адказалі: не баіцеся, што з вас паспрабуюць зрабіць усяго толькі цень?***

— «Жах» і ёсць адказ на тое, пра што ты спытаў... Яны і ёсць цені. І тое ж магло быць са мной? Ці не? Пэўна, не магло, калі не сталася...

А што да таго, што сталася, дык мяне даўно ў цень загнаць спрабуюць. З усіх спісаў павыкрэслівалі. Творы павыключалі з інстытуцкіх праграм, кнігі паздымалі з паліцаў школьных бібліятэк. Нават калі песні на мае вершы спяваюць, імя аўтара не называюць. Маўляў, народныя... Як, скажам, «Гуляць дык гуляць». Дык гэта ж гонар! Не кожны дажывае да такога, каб пры жыцці...

***— Фальклорам стаць...***

— Хай сабе так... (*Смяецца*.) Так што тут для мяне няма нічога страшнага — я звык фармальна, афіцыйна як бы не быць. Хоць перажываў праз гэта, калі праўду казаць, і ў пачатку — даволі востра.

У старажытных грэкаў існавала такое пакаранне: неўпамінанне. Быў астракізм — і было неўпамінанне: чалавека проста пераставалі называць. Вось ён ёсць — і нібыта яго няма. Як табе такое?.. Не кожны вытрывае...

Зразумела, я ўсяляк гэтаму процідзейнічаў. Што ж мне, жывому, памірaць? Палітыкай заняўшыся, не кінуў пісаць. І, па-мойму, не згубіў свайго чытача. Ва ўсялякім выпадку, усе мае кнігі разляталіся імгненна. «Лабух», «Так», «Цэнтр Еўропы», «Кон», «Паэмы», «Лісты да Волі». Спадзяюся, тое самае будзе і з «Аўтаматам з газіроўкай...»

***— Іосіф Бродскі, які неаднойчы быў арыштаваны, прайшоў праз КДБ, быў асуджаны, а пазней проста выпхнуты з краіны, неяк заўважыў, што мы не разумеем адной простай рэчы: часовае мы прымаем за пастаяннае.***

— Так, але гэтае часовае мы прымаем за пастаяннае невыпадкова, бо яно і ёсцека нашае жыццё. Вось гэтае імгненне і тыя гады, якія мы з табой знаёмыя і якіх ужо амаль дваццаць, гэта пастаяннае ці часовае?..

***— Калі з пункту гледжання вечнасці...***

— Каму вечнасць, а каму недарэчнасць. Чакаць яшчэ дваццаць гадоў, калі гэта часовае сыдзе?..

Я, канешне, разумею, пра што гаворка. Мне шкада страчанага «часовага» часу, але я не мог яго не страціць. Інакш бы не адбылася мая жыццёвая гісторыя, якая адбывалася менавіта ў гэтакім, у страчаным часе. Інакш нельга, ніхто яшчэ не прыдумаў: як у часе жыць і яго страчваць. Не займацца драбязой? Рабіць кожны дзень, як раіць Біл Гейц (і сцвярджае, што гэтак і робіць, у чым я маю вялікі сумнеў), толькі тое, што рабіў бы ў апошні дзень жыцця? А што ў свой апошні дзень кожны з нас мусіць рабіць? Нехта будзе Богу маліцца, а нехта — д'ябла шукаць, каб з ім дамову падпісаць. Дык вось і з таго, і з іншага, і з усяго астатняга можна ствараць літаратуру, і менавіта гэты занятак ёсць для мяне тым, штоператварае часовае ў, як ты кажаш, пастаяннае.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПАД ЭГІДАЙ БРЭЙВІКА

## ВЫЗНАЧАНЫ ШОРТ-ЛІСТ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ЕЖЫ ГЕДРОЙЦА

*Алесь ГІНЗБУРГ*

**11 лютага ў Амбасадзе Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь журы Літаратурнай прэміі Гедройца назвала 6 кніг, якія працягнуць змаганне за галоўную грашовую ўзнагароду ад «Сомбелбанку».**




...Калі старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтру Андрэй Хадановіч агучыў вынікі галасавання журы, у зале павісла ціша. Дый сябры журы шчыра прызналіся, што вынікі галасавання шакавалі іх саміх.

Што менавіта стала шокам, не ўдакладнялася. Але відавочна адно: усіх прыхільнікаў якаснай традыцыйнай літаратуры расстроіла нетрапляннe ў шорт-ліст кніг Андрэя Федарэнкі і Уладзіміра Сцяпана. У выніку найбліжэй за ўсіх да рэалізму ў фінальнай шасцёрцы — Адам Глобус. Калі меркаваць па гэтых выніках, беларуская літаратура ўзяла канчатковы і беспаваротны курс на наватарства. Каб ураўнаважыць такі перакос, магчыма, у будучыні варта было б запрасіць у журы кагосьці з акадэмічнай прафесуры. Калі, канешне, беларускія прафесары не пабаяцца мець справы з польскімі дыпламатамі.

Так ці інакш, маем ТОП–6, і ён такі, які ёсць. Аглядальнік НЧ паспрабаваў ацаніць шанцы кожнай з кніг-фіналістак на перамогу ў прэміі.

**Сяргей Балаханаў. Зямля пад крыламі Фенікса. — Мінск: Логвінаў (серыя «Галерэя Б») — 2012.**

Калі б год дзесяць таму «Тэзею беларускага постмадэрнізму» сказалі, што аднойчы ён увойдзе ў шорт-ліст нацыянальнай літаратурнай прэміі на правах «самага коціка», стане адзіным аўтарам, чый поспех не выкліча ўвогуле ніякага скандалу, ён бы спачатку здзівіўся, потым пакрыўдзіўся, потым, чаго добрага, кінуў бы пісаць. І нарысы з паралельнай гісторыі Беларусі, населенай аднарогамі і феніксамі, так і не пабачылі б свету. Але факт застаецца фактам: Балаханаў — самы роўны аўтар прэміяльнай «шасцёркі». У меру «фулюганісты», у меру інтэлектуальны, бязмежна гумарны і пазітыўны.

Адна бяда: кніга не адкрывае перспектывы на будучыню, а хутчэй падсумоўвае пройдзены этап. Канец 1990-х — пачатак 2000-х гадоў стаў для беларускай літаратуры часам вакцынацыі ад рэалізму. У прышчэпцы авангарду, абсурду і эпатажу неадменна быў прысутны драбок «балаханаўшчыны». Сталы аўтар «ARCHE» ад моманту заснавання часопіса, Балаханаў вучыў нас глядзець на рэчы іначай. «Зямля пад крыламі Фенікса» — нязлобная пародыя на беларускую незалежную гістарыяграфію з яе «зрываннем покрываў» і запаўненнем белых плямаў беларускай мінуўшчыны.

**Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча. — Мінск: Логвінаў / Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода — 2012.**

Альгерд Бахарэвіч аскандаліўся на ўсю краіну тым, што ўважліва прачытаў класіку беларускай літаратуры. Упершыню пасля школы, а ў некаторых выпадках — дык і ўвогуле ўпершыню. Падчас чытання ён па-новаму адкрываў для сябе пісьменнікаў з хрэстаматый. Знаёміўся з імі ўжо на роўных, як «таксама пісьменнік». У выніку адны тэксты стварылі эфект разарванай бомбы («Цёмнае мінулае Каяна Лупакі»), іншыя былі аператыўна ўведзеныя ў канон — эсэ «Права на арытмію» стала пасляслоўем да кнігі выбраных (Андрэем Хадановічам) вершаў Максіма Танка. «Гамбургскі рахунак» — гэта жывая кніга жывога (і самага сапраўднага) чытача, якая, калі разважыць па-добраму, мусіла б з'явіцца ў нас гадоў так пятнаццаць-дваццаць таму», — піша крытык Ганна Янкута. І праўда: украінцы зладзілі рэвізію сваім класікам яшчэ ў 90-я (глядзі, напрыклад, эсэ Юрыя Андруховіча «Шаўчэнка isOK»).

> Беларуская літаратура ўзяла курс на наватарства. Каб ураўнаважыць такі перакос, магчыма, у будучыні варта было б запрасіць у журы кагосьці з акадэмічнай прафесуры

Кніга мае серыйны характар — пад адной вокладкай сабраныя штотыднёвыя праграмкі для «Радыё «Свабода». І, як слушна заўважае Янкута, відаць, таму пакутуе на тую ж хваробу, што і «Медычная энцыклапедыя Бахарэвіча», якая заняла другое месца ў прэміі Гедройца летась: вельмі моцныя тэксты суседзяць з тэкстамі так сабе і тэкстамі заўважна слабымі. Зазначу таксама, што сёлета Бахарэвіч канкураваў сам з сабою, выпусціўшы ў 2012 годзе яшчэ і раман «Шабаны», які журы чамусьці не ўразіў.

**У мэтах наладзіць грамадскае абмеркаванне кніг прэміі Гедройца, «Новы час» абвяшчае конкурс «НАРОДНАЯ РЭЦЭНЗІЯ». Аўтар найлепшага водгуку на кнігу атрымае ў падарунак малескін.**

**Умовы ўдзелу чытайце на сайце novychas.info**

**Адам Глобус. Сказы. — Мінск: Харвест — 2012.**

На Мінскай кніжнай выставе Адам Глобус прадстаўляў кнігу «Сказы» — пяты том свайго збору твораў, укладальнікам і прамоўтарам якога ёсць ён сам. Кніга рарытэтная, яе прасцей сабраць па лінках анлайн, чым купіць у кнігарні. Затое на стэндзе «Логвінава» разляталася перавыданне сапраўднай класікі канца 90-х — «Толькі не гавары маёй маме» — камасутра тагачасных студэнтак беларускага філфака.

Крытык Ціхан Чарнякевіч пабачыў у кароткай прозе Глобуса цягу да форматворчасці, уласцівую Алесю Разанаву. Крытык Ганна Кісліцына ахрысціла жанр, у якім працуе ён і яшчэ шэраг літаратараў, «лянівай прозай»: карацелькі, якія штодня вывешваюцца ў блогу, складаюцца ў цыклы і змяшчаюцца ў кнігу. Але, у адрозненне ад радыйнай працы Бахарэвіча, у блогу толькі аўтар вызначае фармат і час здачы тэксту. Таму выходзіць грунтоўна і якасна.

«Лянівая проза» Глобуса — дэтэктар «лянівага чытача». Калі вы прачыталі «Сказы» і пабачылі адно эпатаж, скандал і мізантропію — магчыма, вы проста не трэніраваныя на ўспрыняцце якаснай літаратуры. Проза Глобуса — як экзатычная гарбата: не заўжды парадуе пахам, дый піць яе пажадана толькі пасля чайных цырымоній. Але ж нешта ў гэтым, безумоўна, ёсць.

**Уладзімір Някляеў. Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без. — Мінск: Паперус — 2012.**

Несумленным будзе рабіць нявінныя вочкі і казаць, што палітыка тут ні пры чым. «Мінскі раман» Някляева — гэта частка піяр-кампаніі «Гавары праўду». У палітыкі ідзе пісьменнік, а пісьменнік піша. І доказ гэтаму — кнігі пісьменніка.

Але ж справа ў тым, што Някляеў — таленавіты пісьменнік. І таму «Аўтамат з газіроўкай...» і розгалас вакол яго паводле механізму можна параўнаць з вадзяным млынам. Напісаўшы мілую папсовую кнігу, якая адразу прыйшлася даспадобы чытачу, Някляеў засцябаў афіцыйныя ўлады. Кнігу забараняюць, бо ў рэжыму алергія на харызматычную асобу, але выглядае ўсё як чарговая вайна з плюшавымі мядзведзікамі. Эфект забароненага плоду выклікае жаданне дастаць і прачытаць любою цаною. Прачытанае падабаецца — небагаты беларускі спажывец вельмі дбайна лічыць грошы, патрачаныя на культуру, і чыстай вады кан'юнктурку замест літаратуркі нікому ніколі не даруе. Большы розгалас плодзіць яшчэ большыя рэпрэсіі, якія шыраць вядомасць кнігі да галактычных маштабаў... А тут яшчэ і прэмія Гедройца.

Абвясціўшы, што не бярэ да ўвагі палітычныя моманты, а ацэньвае толькі якасць тэксту, журы прэміі трапіла ў няпростае становішча. Бо пракінуць Някляева — здрадзіць чыстаму мастацтву. Прагаласаваць за яго — даць наматляць сябе на кола млына, на якое сам чэрпі ваду носяць.

**Людміла Рублеўская. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега. — Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда» — 2012.**

Адзіная кніга з шасці, аўтар якой — жанчына, адзіная кніга для падлеткаў, адзіная кніга, выдадзеная дзяржаўным выдавецтвам... Згадваецца афарызм з нататнікаў майго юнацтва, пра тое, што мужчына хоча быць першым, а жанчына — адзінай. Так ці іначай, «Авантуры Пранціша Вырвіча...» — самая ўнікальная кніга-фіналістка.

Яе можна параўнаць з інтэрактыўным падручнікам па гісторыі нашай шматпакутнай зямелькі. З аднаго боку Пранціш Вырвіч — груба кажучы, наш Гары Потэр, з іншага, як піша крытык Марго Аляшкевіч, мэта Рублеўскай — «умацаванне гонасці цэлай нацыі, хай сабе невялікай». Гэта праца на перспектыву. Калі лёс выдання складзецца добра, і аўтарка дапіша працяг, то меркаваная трылогія будзе радаваць і дзяцей, і дарослых. З аднаго боку, «вечныя дзеці Беларусі» пакуль не накушаліся казак пра ўласную гісторыю. З іншага, не камплексуйце чытаць дзіцячыя кнігі, асабліва навінкі. Па-першае, вучыцца ніколі не позна. Па-другое, самымі заўзятымі фанатамі Жуля Верна пры жыцці аўтара былі ягоныя равеснікі. Ну, ім проста не пашанцавала, што ў іх дзяцінстве не было такіх файных кніжак...

**Юры Станкевіч. Шал. — Мінск: Галіяфы («Другі фронт мастацтваў») — 2012.**

Маргінальная (але яна мае права на існаванне) тэорыя сцвярджае, што Андэрс Брэйвік забіў больш за 77 чалавек для таго, каб людзі па ўсім свеце прачыталі яго кнігу. Беларусы ж настолькі талерантная нацыя, што пісьменнікам, які ўхваляюць учынкі Брэйвіка і падзяляюць яго погляды, не трэба брацца за зброю, каб з іх творамі пачалі лічыцца. Пра гэта сведчыць поспех кнігі «Шал» Юрыя Станкевіча.

Брэйвік зрабіў пластычную аперацыю, каб мець арыйскія рысы твару. Станкевіч увасабляе свой ідэал маскуліннасці ў героях сваіх шматлікіх аповесцяў. Талент — зручная штука: і вольнай птушкай лётаеш, і дзеля тэракту напружвацца не трэба. Бо ў Беларусі, у адрозненне ад Нарвегіі, за такое расстрэльваюць.

Здаецца, Юры Станкевіч усур'ёз лічыць сябе песняром нацы. На справе ж гэта — пясняр нацы. Перамогі ў прэміі яго кнігі, апроч адэптаў расійскага неанацызму, на якім грунтуе сваю ідэалогію Станкевіч, могуць жадаць таксама скончаныя цынікі, якім хацелася б пабачыць эпічнае палатно «Польскія выдаўцы знаёмяцца са зместам кніг Станкевіча для іх папулярызацыі ў Еўропе». Зрэшты, кінасцэнар «Фалькона» проста створаны для «Белсату».

Матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча (S)

САЛІДАРНАСЦЬ

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

Сяргей ПУЛЬША

**На гэтым тыдні аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» абвясціў пачатак чарговай «Хвалі салідарнасці» з палітычнымі вязнямі. За паўтара месяцы акцыямі салідарнасці плануецца ахапіць 36 гарадоў — кожны дзень у новым горадзе, акрамя нядзелі. Актывісты БХД і іншых дэмакратычных рухаў будуць распавядаць людзям аб палітвязнях, збіраць подпісы за іх вызваленне, дапамагаць, чым могуць.**

## Складанасці перакладу

Зараз у Беларусі, паводле ацэнак міжнародных структур і беларускіх праваабарончых арганізацый, налічваецца 11 палітвязняў. Было 12 — літаральна днямі вызвалены з баранавіцкага СІЗА Васіль Парфянкоў. Гэта тыя, хто прызнаныя як «палітвязні» сусветнымі праваабарончымі арганізацыямі. Па меркаванні беларускай грамадскасці, палітвязняў у нас больш на два чалавекі — 13. З чаго ўзнікла такая разбежка?

Як кажа каардынатарка праваабарончай групы «За волю» Ганна Шапуцька, міжнародныя арганізацыі, а ўслед за імі і беларускія праваабаронцы, вытрымліваюць пэўны стандарт, які ў беларускіх умовах малавыканальны. Справа ў тым, што яны выносяць вердыкт, з'яўляецца чалавек палітвязнем ці не, толькі пасля суду і аналізу судовага працэсу. На гэтай глебе яны і высвятляюць, ці былі ў судзе працэсуальныя парушэнні, ці сапраўды чалавека судзілі за ягоную палітычную дзейнасць, ці адпавядае атрыманы чалавекам тэрмін зняволення ягонаму ўчынку і вінаватасці.

Беларускую грамадскасць такі бюракратычны працэс не задавальняе. Найперш таму, што дачакацца, пакуль чалавека «закрыюць», вельмі лёгка. А вызваліць яго з турмы амаль не магчыма. Грамадскія арганізацыі лічаць, што для прызнання чалавека палітвязнем дастаткова толькі яго арышту ў сувязі з яўнай і відавочнай грамадзянскай пазіцыяй. Таму палітвязнем лічыцца Андрэй Гайдукоў — адзін з лідараў незарэгістраванай грамадскай арганізацыі «Саюз маладых інтэлектуалаў», які знаходзіцца зараз у СІЗА КДБ па абвінавачанні ў здрадзе дзяржаве ў форме шпіянажу.

Гайдукоў працаваў у камандзе кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава падчас выбараў 2010 года, ён стварыў незалежную арганізацыю, ён неаднаразова папярэджваўся супрацоўнікамі КДБ, каб кінуў грамадскую дзейнасць, бо ў яго «будуць непрыемнасці». Дый само абвінавачанне ў «закладцы тайніка для замежнай выведкі» і прадастаўленні інфармацыі замежным спецслужбам




### Напішыце палітвязням!

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія №2, атрад №14.

**Эдуард Лобаў**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія №22

**Мікола Статкевіч**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

**Зміцер Дашкевіч**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1

**Павал Севярынец**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ–7

**Мікалай Дзядок**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

**Аляксандр Францкевіч**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія №22

**Ігар Аліневіч**
211440, Віцебская вобл., г. Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія №10

**Яўген Васьковіч**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

**Арцём Пракапенка**
212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15

**Мікалай Аўтуховіч**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1

**Андрэй Гайдукоў**
220050, Мінск, вул. Камсамольская, 30, СІЗА КДБ.

**Аляксандр Малчанаў**
222125, Магілёўская вобл., Барысаўскі р-н., п. Навасады ПК-14, атрад 19

ад аператара завода «Нафтан» выглядае нязграбным.

Да таго ж грамадскасць лічыць, што пры вызнанні чалавека палітвязнем павінны ўлічвацца і наступствы ягонай палітычнай дзейнасці. Напрыклад, Аляксандр Малчанаў быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі за падзеі на Плошчы 2010 года. Выйшаў ён паводле ўказа прэзідэнта аб памілаванні ў верасні 2011 года, хаця ніякага прашэння аб памілаванні не пісаў. Але з такой судзімасцю яго нідзе не бралі на працу — для таго, каб пражыць, ён збіраў металалом і прадаваў яго. Падчас адной такой «зборкі» ён з тварышам трапілі на тэрыторыю аднаго з прадпрыемстваў Жодзіна. Гэта было расцэнена як крадзеж, і ў выніку Малчанаў атрымаў паўтара гады калоніі строгага рэжыму. Афіцыйна праваабаронцы новы тэрмін Малчанава «палітычным» не прызнаюць. Грамадскасць жа лічыць яго палітзняволеным.

## За сумленне і палітыку

Аналагічныя праблемы былі са «справамі анархістаў» у 2011 годзе. На фоне судоў за Плошчу вялікія спрэчкі ў праваабаронцаў выклікалі справы маладзёнаў, якія афіцыйна абвінавачваліся ў падпалах будынкаў міліцыі і КДБ, правядзенні антываенных несанкцыянаваных мітынгаў і шэсцяў каля Міністэрства абароны з закіданнем будынку міністэрства фаерамі. На фоне спрэчкі, каго лічыць «палітычным», а каго не лічыць, праваабаронцы арганізацыі выпрацавалі іншую схему адносінаў да такіх людзей. Справа можа лічыцца «палітычнай», калі чалавека асуджаюць менавіта за ягоную палітычную дзейнасць. Што ж тычыцца «справы анархістаў», то ўсе іх дзеянні былі звязаныя з унутранымі перакананнямі. Таму іх можна адносіць не да «палітычных вязняў», але да «вязняў сумлення».

Аднак анархіст Ігар Аліневіч, асуджаны на восем гадоў зняволення, пераконвае праваабаронцаў: улада ва ўсе часы вызначала палітычных не формамі і метадамі дзеяння, не артыкуламі Крымінальнага кодэкса, а матывамі і мэтамі. А матывы і мэты ў анархістаў былі якраз палітычныя.

Дарэчы, тады і лідар незарэгістраванага праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі таксама можа не лічыцца палітвязнем, бо фармальна праваабарончая дзейнасць — не палітычная.

У выніку міжнародная супольнасць вымушана была пагадзіцца з Аліневічам — і анархісты, і Бяляцкі былі прызнаныя палітвязнямі.

## На волі як за кратамі

Насамрэч, палітвязняў у нас значна больш, чым 11 альбо 13 асобаў. Папросту мы традыцыйна лічым такімі тых, хто непасрэдна сядзіць недзе ў месцы зняволення. Іншыя людзі, асуджаныя ўмоўна, пакутуюць крыху менш за зняволеных, але і яны значна абмежаваныя ў сваіх дзеяннях.

Уладзіміру Някляеву, лідару грамадскай кампаніі «Гавары праўду!», судом абмежаваны ўдзел у масавых мерапрыемствах. Таму падчас парламенцкай выбарчай кампаніі збольшага ён вымушаны быў сядзець дома, звяртацца да сваіх прыхільнікаў і падтрымліваць сваіх кандыдатаў у дэпутаты праз скайп. На кніжным кірмашы нядаўна сарвалі прэзентацыю ягонай кнігі. І не трэба казаць, што гэта не звязана з палітыкай!

Ірына Халіп, карэспандэнтка расійскай «Новай газеты», дагэтуль не магла выехаць у Расію нават на планёркі. Да яе амаль што кожны дзень прыходзяць міліцыянты правяраць, ці знаходзіцца яна дома пасля 22 гадзін. Міліцыянты весяляцца з гэтай нагоды: «Выходзіць, спадарыня Ірына, вы нас самі да сябе штовечар выклікаеце!»

Але больш складаная сітуацыя ў былога кіраўніка перадвыбарчага штабу Статкевіча Сяргея Марцалева. Ён па адукацыі — паліттэхнолаг, палітычны менеджар. І зарабляў ён на жыццё тым, што выкладаў паліттэхналогіі на шматлікіх семінарах і навучальных праграмах. У сувязі з абмежаваннем выезду за мяжу гэтую крыніцу прыбытку ён страціў. А міліцыя настойвае на тым, каб Марцалеў афіцыйна працаўладкаваўся. Інакш ён будзе лічыцца «не стаўшым на шлях выпраўлення», і ягоны ўмоўны тэрмін зняволення можа ператварыцца ў рэальны.

Працы для паліттэхнолага ў Беларусі няма. Спробы ўладкавацца ў рэкламныя фірмы натыкаліся на тэрмін «за палітыку» — з такімі артыкуламі ў фірмы не бяруць. У выніку Марцалеў спрабуе ўладкавацца грузчыкам.

Ну і чым гэта адрозніваецца ад «абмежавання волі ва ўстанове адкрытага тыпу» Паўла Севярынца? Ды амаль нічым. Усё роўна пад наглядам, усё роўна з 22 да 6 дома, усё роўна міліцэйскія праверкі. «Хіміку» Севярынцу хоць гарантаваную працу і месца жыхарства далі. А некаторыя «ўмоўна асуджаныя» ліхаманкава шукаюць, хто можа афіцыйна здаць ім кватэру на доўгі тэрмін, каб з рэгістрацыяй, каб міліцыя ведала, дзе яны жывуць, і магла іх правяраць. Бо за парушэнне рэжыму нагляду, як казалася раней, — рэальны тэрмін.

## Абаронім абаронцаў!

Дзяржава, з аднаго боку, сцвярджае, што палітвязняў у нас няма. З іншага — усе навокал кажуць, што палітвязні ёсць, і гэта вельмі непрыемна. Канешне, для афіцыйнага Мінска было б значна лепш, каб пра палітвязняў згадвалі як мага менш, каб імі апекаваліся толькі сябры і блізкія. Розгалас пра палітвязняў у чарговы раз стварае праблемы ў Еўропе ды псуе імідж улады.

Але ў абаронцаў палітвязняў ёсць толькі адна форма барацьбы за іх вызваленне — гэта галоснасць. Менавіта галоснасць спрыяе таму, каб палітвязні знаходзіліся ў больш-менш адэкватных умовах утрымання.

Канешне ж, на палітвязняў ціснуць. Да Мікалая Статкевіча ўвесь час спрабуюць падсадзіць нейкіх «цмяных» сукамернікаў. Мікалай Дзядок атрымаў у калоніі аж 22 спагнанні, у выніку чаго спачатку змяшчаўся ў ШЫЗА, потым у адзіночную камеру. Але і падчас ягонага сядзення ў «адзіночцы» адміністрацыя калоніі №17 вырашыла, што ён «схільны да захопу закладнікаў», і дамагласся ўзмацнення пакарання і пераводу Мікалая ў турму. Шмат каму за іх «палітычнасць» узмацнілі пакаранне, і шмат хто сядае ў штрафныя ізалятары. Амаль усе палітвязні з'яўляюцца «злоснымі парушальнікамі рэжыму», што не дае ім надзеі на амністыю і, як мінімум, не спрыяе датэрміноваму вызваленню.

Абмежаванне перадачаў, забарона падпіскі, абмежаванне спатканняў з роднымі — усё гэта ёсць у палітвязняў. Але, магчыма, каб не было розгаласу, сітуацыя ў іх была б яшчэ горшай.

Яшчэ і таму, а не толькі дзеля «захавання твару перад Захадам», улада так нервова рэагуе на акцыі салідарнасці з палітвязнямі.

Даходзіць да смешнага: за фота з партрэтам Бяляцкага, выкладзенае ў інтэрнэце, можна атрымаць рэальную адміністрацыйную справу. У Гродна за гэта праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча аштрафавалі на паўтара мільёны рублёў кожнага.

Гэты штраф выклікаў пэўную вясёлую істэрыку ў праваабаронцаў. Наваполацкія актывісты Сяргей Малашэнка і Яўген Парчынскі таксама сфоткаліся з партрэтам Бяляцкага і таксама атрымалі штрафы. Гомельскія праваабаронцы, сфатаграфаваўшыся з партрэтамі, у суд пайшлі самі: маўляў, чаму іншых судзяць, а нас не? А некаторыя ўвогуле пачалі рабіць «фота бясконцасці»: фатаграфавацца з фатаздымкамі тых, хто сфатаграфаваўся з партрэтам Бяляцкага.

Так што з абвешчанай БХД «хваляй салідарнасці» могуць адбыцца і іншыя цікавыя рэчы.

## Падтрымлівалі і будзем падтрымліваць!

Як сказаў адзін з сустаршыняў аргкамітэту па стварэнні БХД Віталь Рымашэўскі, нельга чакаць, што ў выніку «Хвалі салідарнасці» палітвязні апынуцца на волі. «Галоўная задача гэтай дзеі — найперш актывізаваць беларускае грамадства ў справе падтрымкі палітвязняў. Шмат для іх вызвалення робіць міжнародная супольнасць, а беларускае грамадства, праз два гады іх зняволення, па-ранейшаму ведае пра іх мала. Нават падчас парламенцкіх выбараў мінчукі актыўна падпісваліся за іх вызваленне, але ведалі пра іх няшмат. Кампанія будзе праводзіцца, у асноўным, у рэгіёнах, дзе людзі пра іх увогуле не ведаюць. І калі хоць адзін чалавек з 36 гарадоў напіша ліст палітвязню — гэта ўжо будзе вынікам кампаніі», — адзначае Рымашэўскі.

Як кажуць тыя, хто выйшаў на волю, лісты і паштоўкі — гэта сапраўды моцная падтрымка. Гэта сведчыць, што пра іх не забыліся, што яны не засталіся сам-насам у сваёй камеры. І што іх чакаюць на волі.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 18 лютага, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00,07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Камедыя «На мора» (Расія).
**12.10** Тэлестужка АТН «Слуцкія паясы. Тайныя знакі».
**12.45** Дыялогі пра цывілізацыю.
**13.15** Вакол планеты.
**13.55** Журналіцкае расследаванне.
**14.30** Таямніцы следства.
**15.10, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладрама «Вакзал для дваіх» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**17.45** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**19.20** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**19.35, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Форум.
**22.40** Народная камедыя «Сваты» (Украіна). 1-я серыя.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.00** «Выйшаў вожык са смугі».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** «Вячэрні Ургант».
**22.50** Прэм'ера. «Сяргей Светлакоў. Той яшчэ пяльмень».
**23.50** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**00.40** Вынікі Берлінскага кінафэсту.
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Тыдзень».
**10.10** «Жыць будзеце».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** Канцэрт М.Задорнава.
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «ПіраМММіда». Расія, 2011 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.40** «Пякельная кухня - 2».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дак.-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**12.15** Рамантычная камедыя «Змёрзлая з Маямі» (ЗША).
**14.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.45** Парушаючы запаведзі.
**15.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватар» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авертайм.
**22.05** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**23.05** Меладрама «Захоўвай мяне, мой талісман» (СССР).
**00.25** Дак.-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Шукальнікі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Было каханне».
**22.25** Тэлесерыял «Жонка афіцэра».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Бяспека.ру».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Руская сенсацыі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 хвілін».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**11.00** Выніковая праграма «Разам».
**12.25** «Агульны рынак».
**12.40** «Навіны Садружнасці. Культура».
**13.15, 03.25** М/ф «Не стаўце Лесуну капканы».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** «Саюзнікі».
**19.10** «Усюды жыццё».
**19.40** «Сардэчна запрашаем».
**20.05** «Беларусь сёння».
**21.25** «Свет спорту».
**21.55** Д/ф «У свеце сакрэтных ведаў».
**22.45** Ток - шоў «Слова за слова».
**23.35** Т/с «На віражы».
**01.15** «Зроблена ў СССР».
**01.40** М/ф «Кафэ «Шніцаль Парадыз».

### Белсат tv

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** «Новая Зямля: Архіпелаг страху», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**09.15** Два на два (тэледыскусія).
**09.40** Euromaxx.
**10.10** Форум (ток-шоу).
**10.55** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Гісторыя нікчэмнасці».
**11.45** Фільматэка майстроў: «Смерць як луста хлеба», маст. фільм, 1994 г., Польшча.
**13.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.15** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**14.45** ПраСвет.
**15.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**15.35** «Новая Зямля: Архіпелаг страху», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**16.30** Два на два (тэледыскусія).
**17.00** Форум (ток-шоу).
**17.45** Відзьмо-невідзьмо: выд. 18.
**18.10** Еўропа сёння.
**18.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** Фільматэка майстроў: «Смерць як луста хлеба», маст. фільм, 1994 г., Польшча.
**23.25** Студыя «Белсат».
**01.20** Асабісты капітал.
**01.40** Аб'ектыў.
**02.05** Не прапусці! (парадник гледача).
**02.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 19 лютага, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**12.25** Дак. серыял «Будзь у тонусе!».
**13.00** Дак. серыял «Цуды прыроды».
**13.30** Народная камедыя «Сваты» (Украіна). 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Культурныя людзі.
**16.55** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты» (Украіна). 2-я серыя.
**23.50** Дзень спорту.
**00.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.50** Дак. серыял "Пад сонцам" (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Грак». Шматсер.фільм.
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Задзіракі».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «ПіраМММіда». Расія, 2011 г.
**15.45** «Дзіўная справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Гульня ў чатыры рукі». Францыя - Італія, 1980 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Нам і не сніліся»: «Цёмная магія золата». Частка 1-я.
**01.05** «Асабістая справа капітана Руміна». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Авертайм.
**10.45** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.40** Меладрама «Захоўвай мяне, мой талісман» (СССР).
**13.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватар» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватар» (СССР). 3-я і 4-я, закл., серыі.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Арсенал - Баварыя. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Порту - Малага.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Сонька. Працяг легенды».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Было каханне».
**22.25** Тэлесерыял «Жонка афіцэра».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 хвілін».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**10.45** «Незорнае дзяцінства».
**11.15** «Агульны інтарэс».
**11.40** «Простая мова».
**12.25** Т/с «Трое зверху».
**13.15, 03.20** М/ф «Пазначаны атам».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.50, 01.40** Т/с «Закон і парадак».
**21.25** «Дыяспары».
**21.55** Д/ф « У свеце сакрэтных ведаў».
**23.35** Т/с «На віражы».
**01.15** «Усюды жыццё».

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Асабісты капітал.
**08.50** Аб'ектыў.
**09.15** Не прапусці! (парадник гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**10.00** «Лепей быць прыгожай і багатай», камедыя, 1993 г., Польшча.
**11.45** Студыя «Белсат».
**13.20** Асабісты капітал.
**13.40** Аб'ектыў.
**14.05** Не прапусці! (парадник гледача).
**14.25** Еўропа сёння.
**14.55** «Лепей быць прыгожай і багатай», камедыя, 1993 г., Польшча.
**16.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.50** «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 7 серыя.
**22.35** Назад у будучыню.
**22.45** Форум (ток-шоу).
**23.35** Студыя «Белсат».
**01.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 20 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Перазагрузка.
**13.30** Камедыя «Сваты». 2-я серыя.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Дакументальны фільм «Калі дарагі табе твой дом» (Беларусь).
**16.50** Зямельнае пытанне.
**17.15** Медычныя таямніцы.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-2» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**01.35** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўя!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Грак». Шматсер. фільм.
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Камедыя «Місіс Даутфайр».
**02.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гадзіна суда».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Гульня ў чатыры рукі». Францыя - Італія, 1980 г.
**15.45** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Брудныя танцы 2». ЗША, 2004 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Нам і не снілася»: «Цёмная магія золата». Частка 2-я.
**01.05** «Асабістая справа капітана Руміна». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.45** «Пакуль мы жывыя» («Беларусьфільм»).
**12.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватэр» (СССР). 3-я і 4-я, закл., серыі.
**15.25** Парушаючы запаведзі.
**16.15** Беларуская часіна.
**17.25** Рэгіянальная праграма.
**18.25** Хакей. КХЛ. Плэй-оф. 1/8 фіналу. Матч 1-ы. Прамая трансляцыя.
**20.45** Веласпорт. Трэк. Чэмпіянат свету. Дзень 1-ы.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**22.25** КЕНО.
**22.30** Тэлебарометр.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Мілан - Барселона. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Галатасарай - Шальке.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Сонька. Працяг легенды».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Было каханне».
**22.25** Тэлесерыял «Жонка афіцэра».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** Сведкі. «Маршал Язаў. Па сваіх не страляю».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Марскія д'яблы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 хвілін».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**10.45** «Любімыя акцёры».
**11.15** «Даведнік».
**11.40** «Кыргызтан у асобах».
**12.25** Т/с «Трое зверху».
**12.50, 03.05** М/ф «Зямля Саннікава».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.50, 01.15** Т/с «Закон і парадак».
**21.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55** Д/ф «Эпоха. Падзеі і людзі».
**23.35** Т/с «На віражы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.15** «Доктар Марцін», серыял: 7 серыя.
**11.05** Вагон.
**11.10** Форум (ток-шоу).
**12.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**14.00** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.45** На колах.
**15.15** «Доктар Марцін», серыял: 7 серыя.
**16.05** Форум (ток-шоу).
**16.50** «Афіцэры», дэтэктыўны серыял.
**17.40** Асабісты капітал.
**18.00** Праект «Будучыня».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі», мультсерыял, 2005 г., Чэхія.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Ночы і дні», серыял, 1977 г., Польшча: 1 серыя.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.40** Студыя «Белсат».
**01.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.05** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 21 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Народная камедыя «Сваты-2» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.30** Нашы.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**01.25** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўя!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Грак». Шматсер. фільм.
**23.20** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**01.00** «Цікавае кіно» ў Берліне.
**01.30** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Брудныя танцы 2». ЗША, 2004 г.
**15.35** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Іронія паспеху». Расія, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Нам і не снілася»: «Цёмная магія золата». Частка 3-я.
**01.05** «Асабістая справа капітана Руміна». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.05** Вышэй за дах.
**10.40** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя). Заключная серыя.
**11.45** Чароўная музычная казка «Не пакідай» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**13.15** Меладрама «Вечны муж» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.15** Беларуская часіна.
**17.25** Рэгіянальная праграма.
**18.25** Хакей. КХЛ. Плэй-оф. 1/8 фіналу. Матч 2-і. Прамая трансляцыя.
**20.45** Веласпорт. Трэк. Чэмпіянат свету. Дзень 2-і У перапынку: 21.25 КЕНО.
**22.50** Тэлебарометр.
**22.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1\16 фіналу. Фенербахчэ - БАТЭ.
**01.00** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя). Заключная серыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Фільм «Што хавае каханне» (2010 г.). 1-я серыя.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** Тэлесерыял «Жонка афіцэра».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Марскія д'яблы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 хвілін».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**10.45** «Зроблена ў СССР».
**11.15** «Сардэчна запрашаем».
**11.40** «Простая мова».
**12.25** Т/с «Трое зверху».
**13.15, 03.25** М/ф «Выпадак у квадраце 36-80».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.50, 01.40** Т/с «Закон і парадак».
**21.25** «Па шчырасці».
**21.55** Д/ф «З нагоды. 400 гадоў дому Раманавых».
**23.35** Т/с «На віражы».
**01.15** «Беларусь сёння».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня».
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 1 серыя.
**11.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.15** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.45** Аб'ектыў.
**14.10** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.30** Праект «Будучыня».
**15.00** «Ночы і дні», серыял: 1 серыя.
**15.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.05** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.50** «Час гонару», серыял: 9 серыя.
**17.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял.
**22.35** «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.25** Аб'ектыў.
**01.55** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 22 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**13.00** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.45** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**19.20, 23.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Дыялогі пра цывілізацыю.
**22.30** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Серыял «Майстры жахаў». Фільм «Права на смерць» (ЗША-Канада).
**01.20** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І ганна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здаровейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Хачу ведаць».
**17.00** «Ералаш».
**17.15** Тэорыя неверагоднасці.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дзве зоркі».
**22.45** «Вячэрні Ургант».
**23.45** Фільм «Здань».
**02.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Іронія поспеху». Расія, 2010 г.
**15.40** «Хороша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Сардэчна запрашаем у Швейцарыю». Францыя - Швейцарыя, 2004 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Асабістая справа капітана Руміна». Серыял.
**00.05** Фільм «Дзе хаваецца праўда». ЗША-Вялікабрытанія - Канада, 2005 г.
**01.55** «Глядзець усім!».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Фактар сілы.
**10.40** Наперад у мінулае.
**11.15** Чароўная музычная казка «Не пакідай» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**12.30** Армейскі прыгодніцкі фільм «Загад» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** «Два Фёдары» (СССР).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Веласпорт. Трэк. Чэмпіянат свету. Дзень 3-і. Прамая трансляцыя.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**22.50** Час футболу.
**23.35** Арэна.
**00.05** Фактар сілы.
**00.30** Фільм-пародыя «Антыбумер» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Фільм «Што хавае каханне» (2010 г.). 2-я серыя.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.15** Навіны - Беларусь.

**00.25** Фільм «Дзяўчына ў прыстойную сям'ю» (2012 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Вострасюжэтны фільм «Адзіночка».
**00.50** «Афіцэры Расіі». Канцэрт.

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 хвілін».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**10.45** «На шашлыкі».
**11.15, 05.25** «Усюды жыццё».
**11.40** «Рэспубліка сёння».
**12.25** Т/с «Трое зверху».
**13.15, 01.30** М/ф «Тыя, што сышлі з нябёсаў».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 01.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.50** М/ф «Шчыт айчыны».
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55, 03.00** М/ф «Сон у руку, ці Валізка».
**23.20** Т/с «На віражы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**11.00** «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**15.55** «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**16.50** «Час гонару», серыял: 10 серыя.
**17.35** Рэпартэр.
**18.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Утоеныя скарбы», 2000 г.
**22.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 23 ЛЮТАГА, СУБОТА

### 1 Беларусь

**07.05** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Героіка-патрыятычны фільм «Афіцэры» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**17.10** Eurovision. Вынікі тыдня.
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Дакументальны фільм «Войска народа» (Беларусь).
**19.40** Урачысты сход і святочны канцэрт.
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэм'ера. Містычная ваенная драма «Белы тыгр» (Расія).
**23.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Камедыйны серыял «Суседзі».

### Н

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Фільм «Нябесны ціхаход».
**10.35** Фільм «Афіцэры».
**12.20** Фільм «Белае сонца пустэльні».
**13.55** Фільм «Брэсцкая крэпасць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Брэсцкая крэпасць». Працяг фільма.
**16.50** «Адзін супраць усіх».
**17.35** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «Пяць нявест».
**23.10** Фільм «Белы тыгр».
**01.10** Святочны канцэрт да Дня абароны Айчыны.

### СТВ

**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.55** «Анфас».
**08.10** Фільм «Сардэчна запрашаем у Швейцарыю». Францыя - Швейцарыя, 2004 г.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Чыстае неба». СССР, 1961 г.
**15.40** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «У сузор'і быка». Расія, 2003 г.



**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Хор-шоу». Адмысловы выпуск.
**21.40** «Дыверсант». Серыял.
**01.20** «Дзіўная справа».
**02.10** Фільм «Аголеная зброя». Ганконг.

### 2 Беларусь

**07.50** Дабравест.
**08.15** «Два Фёдары» (СССР).
**09.55** «Беларускі Севастопаль». Дакументальны фільм (Беларусь).
**10.10** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**11.20** Тэлебарометр.
**11.25** Альбарутэнія.
**11.55** Наперад у мінулае.
**12.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.10** Беларуская кухня.
**13.45** «У бой ідуць адны старыя» (СССР).
**15.40** Мазгавы штурм.
**16.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**17.15** Прыгодніцкі баявік «Рыцары неба» (Францыя).
**19.10** Тэлебарометр.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Веласпорт. Трэк. Чэмпіянат свету. Дзень 4-ы. У перапынку: 21.00 КЕНО.
**23.20** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке-шоў.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Ха». Маленькія камеды.
**07.15** Фільм «Дарагі мой чалавек».
**09.10** «Ранішняя@пошта».
**09.45** Фільм «Чараўнік» (2008 г.).
**11.20** Ваенна-патрыятычны фільм «Смяротная сутычка» (2010 г.).
**14.00** Весткі.
**14.15** Ваенна-патрыятычны фільм «Смяротная сутычка». Працяг.
**15.05** Тэлесерыял «Берагі».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Тэлесерыял «Берагі». Працяг.
**22.40** Фільм «Стомленыя сонцам-2» (2010 г.).

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Марскія д'яблы».
**19.00** Сёння.
**19.30** Серыял «Марскія д'яблы».
**00.15** Фільм «Адстаўнік-3».

### МИР

**05.00, 03.00** М/ф «Цягнік у далёкі жнівень».
**06.45** М/ф-мы.
**07.45** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** М/с «Смешарыкі».



**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Здабытак Рэспублікі».
**11.35** Т/с «Спадары афіцэры».
**15.10** Т/с «Нябеснае жыццё».
**19.00** Т/с «Куля - дурніца».
**22.15** М/ф «Кітайскі сервіз».
**00.05** М/ф «Шчыт айчыны».
**01.25** М/ф «Дняпроўская мяжа».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.40** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Пацукі».
**12.05** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**12.55** «Час гонару», серыял: 9 серыя.
**13.40** «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**14.40** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Гісторыя нікчэмнасці».
**15.30** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гурта «Індыга».
**15.55** «Троіца», фільм-канцэрт.
**16.40** «Аповеды выходнага дня», цыкл мастацкіх фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Утоеныя скарбы», 2000 г.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 8 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**18.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.05** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 5 серыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 19.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дакументальны фільм, 2009 г., Польшча.
**22.00** Суботні сеанс: «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.10** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.25** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 24 ЛЮТАГА, НАДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**07.20** Гераіка-патрыятычны фільм «Афіцэры» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Не толькі зброяй». Відэастужка (Беларусь).
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Прыгодніцкі фільм «Зялёны фургон» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.45** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.40** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**18.35** Вострасюжэтная гістарычная драма «Тарас Бульба» (Расія-Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналіцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальная камедыя «Матадор» (ЗША-Германія).
**00.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Мультфільм.
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Камедыя «Салдат Іван Броўкін».
**14.10** Камедыя «Іван Броўкін на цаліне».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Бояр».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** «Yesterday live».
**00.20** «Мэрылін Манро. Незапатрабаваны багаж».

**СТВ**

**06.20** «Дыверсант». Серыял.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Наш дом». СССР, 1965 г.
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.45** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Кілеры». ЗША, 2010 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.55** Фільм «Чорныя матылькі». Германія - Нідэрланды - ПАР, 2011 г.
**01.40** «Дурні, дарогі, грошы».

**Беларусь 2**

**07.55** Таямніца душы.
**08.20** «У бой ідуць адны старыя» (СССР).
**10.10** Пазакласная гадзіна.
**10.25** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**11.35** Тэлебарометр.
**11.40** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Відэастужка (Беларусь).
**12.15** Пра мастацтва.
**12.45** Вышэй за дах.
**13.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**13.55** Веласпорт. Трэк. Чэмпіянат свету. Дзень 5-ы. Прамая трансляцыя.
**16.55** Хакей. КХЛ. Плэй-офф. 1/8 фіналу. Матч 3-і. Прамая трансляцыя.
**19.20** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Манчэстар Сіці - Чэлсі.
**23.50** Хакей для ўсіх.
**00.30** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Я дачакаюся.» (2011 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Фільм «Родная кроў» (1964 г.).
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Зніклая субмарына. Трагедыя К-129».
**15.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** Фільм «Развітанне славянкі» (2011 г.).
**17.55** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** Фільм «Стомленыя сонцам-2» (2011 г.).



**НТВ**

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.30** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.30** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Марскія д'яблы».
**19.00** Сёння.
**19.20** Серыял «Марскія д'яблы».
**22.30** «Жалезныя лэдзі».
**23.15** Серыял «Марскія д'яблы».

**МИР**

**05.00** М/ф «Смага».
**06.25** М/ф-мы.
**07.45** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Таямніца «Чорных драздоў».
**11.00** Т/с «Спадары афіцэры».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Т/с «Марозаў».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Т/с «Марозаў».
**22.30** М/ф «Здабытак Рэспублікі».
**00.55** Т/с «Куля - дурніца».
**05.05** Д/ф «З нагоды. Таямніцы скарбаў».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 8 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.20** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «B:N:».
**10.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.05** Асабісты капітал.
**11.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзвездзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.15** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 8 серыя.
**12.45** «Час гонару», серыял: 10 серыя.
**13.30** «Ночы і дні», серыял: 1 серыя.
**14.25** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 5 серыя.
**15.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.35** МакраФон: Рамантычны канцэрт: ч. 2.
**15.55** «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.05** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Псеўданім Пух».
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Дзеці рэвалюцыі», дак. фільм, 2002 г., Польшча.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоў).
**22.40** Фільматэка майстроў: «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**00.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 19.
**01.00** Два на два (тэледыскусія).
**01.25** Жаўтуха (сатырычная праграма).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты. **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка. 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі. 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель. (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў. (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск. (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск. (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк. (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Кассир Пеня ________
Всего ________

ПАРАЛЕЛІ

# ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ ЗА ВУХА ПІСЬМЕННІКА

Аксана КОЛБ

**Партыя «Сучасны Мусават» прыняла рашэнне даць узнагароду таму, хто адрэжа вуха пісьменніку Акраму Айлislі, аўтару рамана «Каменныя сны».**



«Каменныя сны» — гэта другая частка трылогіі. Першая частка — «Емен» — была напісана яшчэ ў 1990 годзе. Трэцяя часткай трылогіі пад назвай «Грандыёзны корак» пакуль знаходзіцца ў рукапісе. Сутнасць кнігі палягае ў выкладзе лёсу бакінскага інтэлігента і яго разважанняў пра армяна-азербайджанскі канфлікт і адносіны двух суседніх народаў.

«Айлislі ў сваім рамане абразіў 4,5 мільёна выхадцаў з Заходняга Азербайджана (сучасная Арменія), прадставіўшы іх дзікунамі. Таму прынята рашэнне, што ўсіх пакаранняў для Айлislі будзе мала і неабходна адрэзаць яму вуха. Выкананне гэтага рашэння даручана чальцам моладзевага аддзялення партыі. Той, хто гэта зробіць, атрымае прэмію ў 10 000 манатаў (амаль 10 тысяч еўра — рэд.)», — сказаў лідар партыі Хафіз Гаджыеў агенцтву «Turan».

Цікава, што на ініцыятыву Гаджыева ніяк не адрэагавалі праваахоўныя органы. Ніякага пераследу лідара «Сучаснага Мусавата» не назіраецца. Затое ёсць сапраўднае цкаванне яшчэ нядаўна народнага пісьменніка.

Спачатку прадстаўнікі праўладнай моладзевай арганізацыі Партыі «Ені Азербайджан» (ПЕА) правялі акцыю перад домам пісьменніка. Удзельнікі акцыі скандавалі: «Акрам, прэч з краіны!», палілі фатаграфіі пісьменніка і яго кнігі. Такія акцыі сталі праводзіцца рэгулярна.

Пасля свой праведны гнеў пачалі выказваць работнікі культуры. «Адкрыўшы сайт часопіса «Дружба народов», прачытаў раман-рэквіем Акрама Айлislі «Каменныя сны». Прачытаў у два прыёмы, адразу не змог, не хапіла душэўных сіл, і дагэтуль не магу адкараскацца ад адчування таго, што выпацкаўся ў чымсьці брудным, ад чаго цяжка адмыцца», — піша на адным з афіцыйных сайтаў Акіф Мелікаў, заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджана.

Рашуча асудзіў аўтара рамана і Саюз пісьменнікаў Азербайджана, адзначыўшы нізкую мастацкую вартасць кнігі. А дзяржаўны драматычны тэатр адмовіўся ставіць п'есы Айлislі.

Далей — болей. Вясновая сесія азербайджанскага парламента пачалася з абмеркавання сітуацыі вакол рамана. Тэму амаральнасці літаратара дэпутаты вышэйшага заканадаўчага органа абмяркоўвалі амаль гадзіну. «Гэты чалавек не заслугоўвае звання народнага пісьменніка Азербайджана за зняважэнне і абразу азербайджанскага народа, яго веры і звычаяў», — сказаў дэпутат Муса Гулееў. Яшчэ адзін дэпутат, Алі Ахмедаў, папрасіў пазбавіць пісьменніка ордэна «Шохрат». А дэпутат Ахмед Велееў прапанаваў вызначыць генетычны код такіх людзей, як пісьменнік Акрам Айлislі.

Ад словаў перайшлі да дзеянняў. Нацыянальная акадэмія навук Азербайджана (НАНА) пачала даследаванні ў сувязі з творам. «Гэтыя даследаванні будуць праводзіцца ў інстытутах гісторыі, археалогіі і этнаграфіі, філасофіі, сацыялогіі і права. У творы шмат памылак і не адпаведных праўдзе фактаў. Мы на навуковай аснове выкрыем гэтыя памылкі і звернем увагу грамадскасці на іх», — паведаміў прэзідэнт НАНА Махмуд Керымаў.

У інтэрв'ю Радыё «Азадлыг» сам Акрам Айлislі падкрэсліў, што выказаў у рамане свае погляды і ўражанні, а не арыентаваўся на факты: «Хто можа даказаць, правы я ці не? Ці можна сказаць якому-небудзь пісьменніку, што ты ў сваім творы абразіў народ? Я і калі пісаў думаў, і цяпер думаю, што не меў намераў ачарніць азербайджанскі народ, нашкодзіць яму».

Пераследам самога пісьменніка ўлады не абмежаваліся. Сына Акрама Айлislі палкоўніка-лейтэнанта Мытнай службы Наджафа Наібава (Айлislі), які 12 гадоў узначальваў аддзел у фінансавым упраўленні Дзяржаўнага мытнага камітэта Азербайджана, без тлумачэння прычын звольнілі з працы.

Жонка пісьменніка Галіна Айлislі, якая шмат гадоў узначальвала дзіцячую бібліятэку імя Назыма Хікмета ў Сабаілаўскім раёне Баку, таксама нечакана была звольненая.

А 7 лютага прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў пазбавіў Акрама Айлislі звання «Народны пісьменнік» і прэзідэнцкай стыпендыі. Зрабіў ён гэта таму, што пісьменнік «злоўжыў аказаным яму народам даверам», здзейсніў спробу «ачарніць далёкае і блізкае гістарычнае мінулае» і «ўлічваючы шматлікія звароты дзяржаўных, грамадскіх структур і грамадзян».

«Мне нават сасніцца не магло, што прэзідэнт падпіша такое распараджэнне і пазбавіць мяне ганаровага звання», — пракаментаваў пісьменнік рашэнне Аліева сайту Qafqazinfo.az.

Пасля таго, як паўсюль на арганізаваных уладай акцыях пачалі паліць кнігі пісьменніка, ён звярнуўся ў замежныя дыпламатычныя прадстаўніцтвы Азербайджана — пасольствы ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, Расіі, Нарвегіі, Швецыі, Швейцарыі, Аўстрыі, Нідэрландаў, Бельгіі, а таксама ў прадстаўніцтвы Еўрасаюза, АБСЕ і Рады Еўропы — з просьбай азнаёміцца з яго раманам і выказаць да яго стаўленне.

«Ужо больш за два тыдні падкантрольныя азербайджанскай уладзе СМІ вядуць супраць мяне кампанію маральнага тэрору. Перад маім домам праводзяць няўзгодненыя масавыя акцыі, спальваюцца мае кнігі, адбываецца несправядлівы ціск на маіх сямейнікаў, — гаворыцца ў заяве Айлislі. — Я расцэньваю гэта як беспрэцэдэнтны прыклад нецярплівасці ўладных кругоў да свабоды слова».

Трэба адзначыць, што далёка не ўсе ў Азербайджане ўключыліся ў кампанію цкавання пісьменніка. Дэмакратычная грамадскасць і апазіцыйныя СМІ выказалі яму сваю падтрымку і асудзілі пераслед.

Няўрадавы ліберальны Інстытут праваў медыя (ІПМ) выступіў з адпаведнай заявай, дзе адзначаецца, што ганенні на пісьменніка і яго сям'ю «сведчаць пра нецярплівасць улад да людзей з альтэрнатыўнай пазіцыяй і мысленнем, а таксама пра адсутнасць у грамадстве свабоды выказванняў і вяршэнства закона».

**Знайшоўся мужны чалавек, які ўпершыню за доўгі час заклікаў зрабіць крок да прымірэння. Заклікаў гэтак, як павінен заклікаць пісьменнік, — праз мастацкі твор**

«Грамадская палата», якая з'яўляецца аб'яднаннем шэрагу вядучых празаходніх апазіцыйных партый нацыянал-ліберальнага кшталту, заявіла пра прызнанне права Айлislі як грамадзяніна на свабоду выказванняў і асудзіла «псеўдапатрыятычную істэрыю», разгорнутую ўладамі вакол рамана Айлislі, і палічылі недапушчальным пераслед пісьменніка і яго сям'і.

У абарону аўтара рамана выступіла група маладых пісьменнікаў. Літаратар Эльнур Астанбейлі, выступаючы на акцыі ў скверы перад помнікам Сабіру ў Баку, зазначыў: «Канстытуцыя гарантуе права кожнага на свабоду выказванняў, ніхто не мае права шантажаваць ці пагражаць сваім суайчыннікам».

Сваю падтрымку Акраму Айлislі выказаў і Інстытут свабоды і бяспекі рэпарцёраў (ІСБР). Акрамя таго, ІСБР асабліва занепакоены заявай пра ўзнагароду за вуха пісьменніка: «Такія заклікі шкодзяць рэпутацыі Азербайджана. Той факт, што гэтыя заклікі былі зробленыя старшынёй кантраляванай дзяржавай партыяй, паказвае, што яна служыць інтарэсам пэўных груп унутры кіруючых колаў». Кіраўнік ІСБР Эмін Хусейнаў заклікаў праваахоўныя органы прыняць неабходныя прававыя меры супраць Хафіза Гаджыева, дзеянні якога падпадаюць пад артыкул 134 Крымінальнага кодэкса (пагроза смерці або цяжкай шкоды здароўю).

Пра тое, што ў Азербайджане могуць арыштаваць за крытычны артыкул у газеце, вольную думку ў блогу і нават за інфармацыю пра антыпрэзідэнцкую акцыю, мы ўжо ведаем. Цяпер аказалася, што за мастацкі твор у гэтай краіне дазволена адрэзаць вуха.

Вядомы рускі пісьменнік Барыс Акунін з нагоды цкавання азербайджанскага калегі ў сваім блогу напісаў: «Знайшоўся мужны чалавек, які ўпершыню за доўгі час заклікаў зрабіць крок да прымірэння. Заклікаў гэтак, як павінен заклікаць пісьменнік, — праз мастацкі твор. Крок да прымірэнне — гэта калі кажуць: паслухайце, у тым, што здарылася, ёсць і наша віна. І за гэта вы абрынулі на Акрама Айлislі гнеў дзяржавы, грамадскіх арганізацый і народных мас. На аднаго чалавека. Сямідзесяціпяцігадовага пісьменніка. За раман…»

**Знайсці раман можна па спасылцы: http://magazines.russ.ru/druzhba/2012/12/aa5.html**

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяпер Нацбанк РБ па сутнасці ажыццяўляе плаўную дэвальвацыю і выводзіць беларускі рубель на новую траекторыю. Шанец утрымаць сітуацыю ў краіне пад кантролем ёсць і сёння, але гэта будзе залежаць ад шэрагу фактараў, у тым ліку і вонкавых. Рост ВУП залежыць ад канкурэнтаздольнасці адкрытай эканомікі, якой з'яўляецца эканоміка Беларусі. Вядома, лібералізацыя знешняга гандлю з трэцімі краінамі ва ўмовах выканання абавязкаў Расіяй перад СГА ўзмацняе канкурэнцыю на расійскім рынку — асноўным рынку збыту беларускай гатовай прадукцыі. Многія тавары ў двухбаковым беларуска-расійскім абароце вымываюцца, саступаюць месца кітайскім таварам, прадукцыі з іншых краін трэцяга свету. З гэтымі выклікамі давядзецца сутыкнуцца многім беларускім прадпрыемствам, і рэцэпт тут адзін — павышэнне якаснага і інавацыйнага складніку беларускага экспарту.

**REGNUM (Расія)**

У Беларусі зараз складаная грамадская і ідэалагічная абстаноўка. Яшчэ ў 1993 годзе, да прыходу да ўлады Лукашэнкі, была выпушчаная спецыяльная марка, а 2 лютага 2013 года (у дзень нараджэння Каліноўскага) праведзена ўрачыстае гашэнне новай маркі, прысвечанай Кастусю Каліноўскаму. Па лініі Міністэрства адукацыі ў школах правялі дыктоўкі тэксту «Ліста з-пад шыбеніцы» Каліноўскага. А што ж афіцыйныя беларускія ўлады? Такое адчуванне, што яны не ведаюць, як рэагаваць... Падобна на тое, у той частцы былой Расійскай імперыі, дзе 150 гадоў таму ўспыхнула полымя польскага мяцяжу, зноў наспяваюць сур'ёзныя падзеі.

**«Фонд стратегической культуры» (Расія)**

Расія зусім не займаецца дабрачыннасцю, яна гатовая плаціць за тое, каб застацца галоўным гульцом на былой постсавецкай прасторы. Такую інтэграцыю можна разглядаць як звычайную здзелку палітычных элітаў, ад якой кожны бок атрымлівае сваю форму прыбытку. Пакуль існуе такая прывязка да Расіі, ніякіх зменаў у Беларусі не прадбачыцца нават у перспектыве.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Наўрад ці Расія можа быць карысная Беларусі і ў плане наладжвання кантактаў з сусветнай супольнасцю. Знешняя палітыка беларускіх уладаў, што будуецца на супярэчнасцях паміж Усходам і Захадам, якая атрымала сярод журналістаў і экспертаў назву «палітыкі арэляў», не прадугледжвае падтрымкі з боку Масквы пры наладжванні стасункаў з Брусэлем. Нагадаем, што, паводле ацэнак мясцовых назіральнікаў, якія аналізуюць дзеянні афіцыйнага Мінска, нядаўна прызначаны кіраўніком МЗС Уладзімір Макей здзяйсняе намаганні для таго, каб нармалізаваць адносіны з Еўропай. Напрыклад, на мінулым тыдні Лукашэнка заявіў пра гатоўнасць змяніць выбарчае заканадаўства, і нават улічыць пры гэтым прапановы міжнародных экспертаў.

**«Независимая газета» (Расія)**

Нежаданне беларускага кіраўніцтва пазбаўляцца ад дзяржактываў можа быць прадыктавана не прагнасцю, а банальнай бояззю страціць кантроль над тым, што адбываецца ў краіне. Прэцэдэнты ўжо маюцца: адразу пасля продажу «Белтрансгаза» «Газпраму» расійскі ўласнік павялічыў тут зарплаты персаналу ў два-тры разы. Беларусаў спрабуюць перакангаць, што калі народ пазбавіцца ад уласнай улады, ён пачне жыць багацей. Бацька, зразумела, супраціўляецца ціску ўсходняга суседа так, як умее.

**«Эксперт» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ЯК НАЗАВУЦЬ ВАЛГАГРАД?

Расійскія манархісты падтрымалі ідэю перайменаваць Валгаград, аднак лічаць, што называецца горад на Волзе павінен не Сталінград, а Царыцын. Менавіта за Царыцын, а не за Сталінград, па словах Кірыла Фралова (кіраўнік Асацыяцыі праваслаўных экспертаў), змагаліся салдаты Чырвонай Арміі ў 1943 годзе. Фралоў лічыць, што гераізм савецкіх салдат тлумачыцца выключна новай палітыкай Сталіна адносна імперскай традыцыі і праваслаўя (падчас вайны было адноўлена Маскоўскае патрыяршаства, частка царкоўнікаў была вызвалена з лагераў). «Адзін з вынікаў Сталінградскай бітвы — гэта тое, што тагачаснае дзяржаўнае кіраўніцтва Расіі, галоўнакамандуючы І. В. Сталін, як мы бачым з наступных падзей, сталі разумець, што бальшавізм не можа быць сілай, натхняльнай да перамогі ў вайне, — піша Фралоў. — Лепшым асэнсаваннем подзвігу герояў Сталінградскай бітвы стала б вяртанне гораду Валгаграду сваёй гістарычнай назвы — Царыцын, паколькі абаронцы Сталінграда, па сутнасці, біліся і перамагалі за веру, цара і айчыну!» Гісторыкі высмеялі тэорыю Фралова. Калі б Сталін лічыў, што армія прайграе вайну з-за адсутнасці патрыяршаства, ён аднавіў бы яго ў катастрафічным для СССР 1941 годзе або летам 1942-га, калі немцы выйшлі да Волгі і Каўказу. Аднак ён сустрэўся з царкоўным кіраўніцтвам толькі 4 верасня 1943 года.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. РАСКОЛ АПАЗІЦЫІ

У адной з вядучых апазіцыйных партыях Венгрыі раскол. Партыя «Іншая палітыка магчымая» (LMP), якая створана на базе альянсу грамадскіх ініцыятыў і ўваходзіць у Еўрапейскую партыю Зялёных, уваравалася ў вялікую палітыку ў 2010 годзе, атрымаўшы 16 парламенцкіх мандатаў. Аднак гэта ўсё ў мінулым. Цяпер стаіць пытанне пра выжыванне партыі, якая, дарэчы, разам з сацыял-дэмакратамі (былыя камуністы) апаніруе кабінету Віктара Орбана (лідар партыі «Fidesz»). На днях восем парламентарыяў LMP разам з лідарам фракцыі заявілі пра выхад з партыі і стварэнне сваёй групы — базы для новай структуры, дзяжурная назва якой «Дыялог для Венгрыі». Прычынай расколу сталі дэбаты па кааліцыйнай палітыцы. Раней партыя адмовілася ад блоку з сацыял-дэмакратамі, што дапамагло «Fidesz» перамагчы на мясцовых выбарах. Затое LMP гатова была тактычна блакавацца з правымі радыкаламі з партыі «Jobbik», каб аслабіць дыктат «Fidesz». Гэта і выклікала сыход левай фракцыі, якая лічыць, што пацяснісць Орбана можа толькі шырокая кааліцыя з эсдэкамі. Зараз сацыял-дэмакраты намагаюцца скалаціць рух «Разам 2014», які, па іх словах, зможа пакончыць з Орбанам на парламенцкіх выбарах, прызначаных на наступны год.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ ВЯРБЛЮДА ПРЭЗІДЭНТА



Як вядома, калі 2 лютага Франсуа Аланд пабываў у малійскім Цімбукту, які толькі вызвалілі ад ісламістаў французскія войскі. Там удзячныя тубыльцы падарылі яму жывога вярблюда. Прэзідэнт падзякаваў за падарунак і пажартаваў, што «будзе выкарыстоўваць яго як транспартны сродак па меры магчымасці». Аднак хутка стала вядома, што французскі клімат не вельмі падабаецца вярблюдам. Тады было прынята рашэнне падараваць таго самага вярблюда малійскаму селяніну, поле якога сапсавалі французскай ваеннай тэхнікай. Аднак пакуль таго селяніна шукалі, падарунак скралі. Прычым не выключаюць, што зрабілі гэта не звычайныя злодзеі, а тыя ж самыя ісламісты. Між тым, шмат французскіх блогераў лічаць, што вярблюд сам збег. Бо Франсуа Аланд, аддаўшы жывёлу селяніну, фактычна прыгаварыў яе пажыццёва да цяжкай працы.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. ЮБІЛЕЙ РУСКАЙ КАЛІФОРНІІ

Рускія дэмакраты святкуюць незвычайны юбілей. 130 гадоў таму ў Расіі была створана сапраўдная рэспубліка з прэзідэнтам, парламентам, канстытуцыяй, што наглядна сведчыць пра рэальнасць дэмакратычнага эксперыменту на Русі. У 1883 годзе на прытоку Амура, рацэ Жалтуга, што ў пяці кіламетрах ад кітайска-расійскай мяжы, было знойдзена золата. Хутка сюды накіраваліся бедныя людзі з усёй імперыі. Каб супрацьстаяць крыміналу, старацелі вырашалі стварыць структуры дзяржавы. Была напісана канстытуцыя, абраны парламент і прэзідэнт (ім стаў адзін аўстрыйскі авантурыст). У руках прэзідэнта і парламента знаходзілася ўся адміністрацыйная і судовая ўлада. Узнікла падатковая сістэма, якая дазволіла адчыніць шпіталь і нават цырк. Зразумела, такая рэспубліка не магла застацца незаўважанай — ні ў Расіі, ні ў Кітаі. Ранняй вясной 1886 года сюды прыбылі расійскія і кітайскія атрады. Кітайцы сваіх падданых пакаралі смерцю, рускія — папросту разагналі. Ва ўсёй гэтай дэмакратычнай ідыліі ёсць адна забаўная дэталь. На самым пачатку бацькі-заснавальнікі Рускай Каліфорніі (так называлася дзяржава) пастанавілі, што ў ёй не будзе жанчын. У выніку ў краіне расцвёў гомасэксуалізм. Адзін сведка пісаў, што «ў гэты грэх запала палова насельніцтва калоніі, нават былыя сяляне, якія, здавалася, павінны быць вельмі маральнымі».

**Паводле расійскай прэсы**

▸ **КАМЕНТАРЫ**

# ЧАМУ СЫХОДЗІЦЬ РЫМСКІ ПАПА

**Алег НОВІКАЎ**

**Ніхто не сумняваўся, што журналісты не паверацьу словы Рымскага Папы Бенедыкта XVI пра тое, што прычынай яго адстаўкі ёсць салідны ўзрост і фізічная стомленасць. Прапануем агляд самых арыгінальных газетных версій апошніх падзей у Ватыкане.**



Перш за ўсё прэса пачала правяраць афіцыйную версію адстаўкі і хутка знайшла некаторыя супярэчлівыя дэталі. Аказваецца, апошні раз 85-гадовы Рымскі Папа хадзіў да ўрача тры месяцы таму. Італьянскае выданне «IlSole 24» у гэтай сувязі ахвотна цытуе Федэрыка Ламбардзі, галоўнага спікера Ватыкана, які сказаў: «Сапраўды, Папа перанёс аперацыю на сэрцы, аднак гэта не мае ніякага дачынення да рашэння пра яго сыход з пасады кіраўніка каталіцкай царквы».

Аднак галоўны недавер да афіцыйнай версіі звязаны з асобай Бенедыкта. Усе ведаюць яго як ультракансерватара, які жорстка стаіць на абароне традыцый Касцёлу. Такі фундаменталіст не можа не ведаць, што адстаўка супярэчыць канону і можа падарваць аўтарытэт інстытуту Папы.

Таксама мелі месца цікавыя супадзенні. Так, у адным нямецкім сатырычным календары на старонцы за 10 лютага (напярэдадні заявы пра адстаўку) выяўлены Папа, які глядзіць тыраж нейкага лато. У руце пантыфіка білет латарэі, усе лічбы яго супадаюць з тымі, якія абвешчаныя. Папа пры гэты кажа: «Божа, зрабі так, каб усе лічбы супалі. У такім разе я пайду ў адстаўку».

Усе таксама ўзгадваюць кнігу «Petrus Romanus: The Final Pope Is Here», якая выйшла ў красавіку 2012 года. Яе аўтары Томас Хорн і Крыс Путнам прадказалі, што цяперашні Папа Рымскі ў гэтым годзе добраахвотна напіша заяву пра адстаўку, адпаведна прадказанню ірландскага біскупа Св. Малахія (1094–1148).

Пачаць непасрэдны экскурс у свет сенсацый і відавочнай «ліпы» можна з публікацыі на амерыканскім сайце www.msn.com. Сайт лічыць, што цяперашні Рымскі Папа спяшаецца пакінуць святы трон, каб не стаць стрэлачнікам за сэксуальны скандал, які, быццам, вось-вось выбухне ў Ватыкане. З улікам таго, што сэксуальныя скандалы вакол Касцёла апошнім часам сталі справай ледзь не звычайнай, СМІ кажуць, што гэты скандал абяцае быць грандыёзным.

Газета «Guardian» лічыць, што прычына сыходу — набіраючая ход судовая справа, якая цягнецца з 2011 года, калі некалькі сэксуальных ахвяр Касцёлу вырашылі засудзіць каталіцкую царкву за злачынства супраць гуманізму.

Таксама варта ўзгадаць, што 4 лютага адбылася прэм'ера дакументальнага фільма «Mea Maxima Culpa: Silence in the House of God». Уплывовае выданне «Los Angeles Times» у рэцэнзіі на стужку піша: «Пасланне «Mea Maxima Culpa» відавочнае. Ніводны сябра іерархіі Каталіцкай царквы не вінаваты на фоне гэтай хвалі гвалту і, натуральна, не можа быць вінаваты чалавек, які знаходзіцца на яе чале».

Ужо згаданы сайт www.msn.com не выключае, што апошнім часам усплылі скандальныя фрагменты, звязаныя з мінулым пантыфіка. Быццам, нехта мае кампрамат пра падрабязнасці яго дзейнасці ў «Гітлерюгенд». Сам Бенедыкт XVI кажа, што яго прымусілі запісацца ў арганізацыю, называючы гэты этап сваёй біяграфіі «цёмнымі часамі». Чым канкрэтна займаўся малады Ёзэф Ратцынгер у шэрагах «Гітлерюгенд», ніхто не ведае.

Найбольш фантазуюць наконт прычын адстаўкі Бенедыкта XVI італьянцы. Так, амаль у духу галівудскіх трылераў «IlSole 24» кажа, што ў Ватыкане рыхтавалася змова супраць Папы. Змову раскрылі, аднак Папу паспелі атруціць. Медыкі гарантуюць яму максімум 12 месяцаў жыцця, якія ён хоча правесці ў спакоі.

Вядучая італьянская газета «Corriere della Sera» падазрае, што галоўную ролю ў рашэнні пантыфіка адыграў скандал «Vatileaks», калі канфідэнцыйныя паперы Бенедыкта XVI былі выкладзеныя ў інтэрнэце яго дварэцкім Паола Габрыэле. Габрыэле, які пасля паспеў пасядзець у турме і быў амніставаны ў снежні мінулага года, сцвярджаў, што хацеў даць факты карупцыі ў Ватыкане і вывесці на чыстую ваду тых, хто маніпуляваў пантыфікам. Пасля «Vatileaks» Папа стварыў спецыяльную камісію, якой даручыў праверыць словы Паола. Паводле «Corriere della Sera», нядаўна рапарт працы камісіі лёг на стол Ратцынгера, які ў шоку ад прачытанага (усе версіі Габрыэле былі пацверджаныя), таму і вырашыў пакінуць Ватыткан.

Таксама італьянская прэса са спасылкай на словы архібіскупа Вінчэнца Паглія піша пра абвастрэнне канфрантацыі ўнутры Ватыкану. Быццам, не на жарт сутыкнуліся ліберальная і ультракансерватыўная фракцыі. Рэтраграды, да якіх належыць Бенедыкт XVI, апошнім часам знаходзяцца ў глухой абароне. Ім патрэбны больш малады і агрэсіўны лідар. Так нарадзілася ідэя адправіць цяперашняга Папу Рымскага на пенсію. Пры гэтым відавочна, што Бенедыкт XVI захавае вялікі ўплыў на ватыканскую палітыку.

Сярод іншых тэорый і версій варта згадаць матэрыял у брытанскай «The Independent». Газета лічыць, што Бенедыкт XVI сышоў, паколькі хоча даць прыклад наступным пантыфікам, каб яны не сядзелі на святым троне да смерці. Быццам, пасля Бенедыкта XVI усе наступныя Папы будуць сыходзіць у адстаўку ў 85 гадоў. Цікава, што некаторыя кажуць пра тое, што Папа ўжо не будзе мець такой асабістай улады. Паступова Касцёл пачне ўводзіць калегіяльны прынцып кіравання.

А вось нямецкая «Frankfuter Rundshau» упэўненая, што адстаўка Папы звязаная з тым, як да яго ставіліся суайчыннікі. Ньгледзячы на тое, што апошні раз немец кіраваў Касцёлам 500 гадоў таму, самі немцы, сапраўды, апошнім часам больш смяяліся з кансерватыўнага Бенедыкта XVI. Дастаткова згадаць скандал з сатырычным часопісам «Titanic», які апублікаваў фотажабу — Папа, на вопратцы якога жоўтая пляма. Пасля журналістаў выклікалі ў суд. Па словах нямецкага кардынала, такія выхадкі Ратцынгер успрымаў вельмі балюча.

Калі ўжо пайшло пра сатыкаў, то ёсць сэнс назваць іхнія версіі. Тут, зразумела, фантазія не мае межаў. Нехта піша, што Ратцынгер збег з Ватыкану, каб узначаліць царкву мармонаў. Другія жартуюць, што ён будзе ўладкаваны ў кампанію «Microsoft», каб будаваць першую ў свеце сакральную сацыяльную сетку.

Жарты жартамі (большасць агучаных вышэй тэорый, сапраўды, падобныя на прыкол), аднак Касцёл сапраўды стаіць на парозе вялікіх перамен. Адстаўка Бенедыкта XVI, які фактычна ўзяў на сябе ўсе правалы Касцёла, дазваляе яго наступніку пачаць усё наноў. Не дарма нямецкая левая газета «Tageszeitung» параўнала адстаўку Ратцынгера з пачаткам рэвалюцыі ў каталіцкай царкве.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ЯК ПЕРАДЗЯЛІЦЬ АФРЫКУ?

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашні канфлікт у Малі зноў узняў пытанне наконт неадпаведнасці існуючых у Афрыцы дзяржаўных межаў этнічнаму стану.**



Паводле энцыклапедыі, у Афрыцы пражываюць ад 500 да 7000 народаў. Аднак пры гэтым тут існуюць усяго 54 дзяржавы, якія вельмі рэдка можна назваць нацыянальнымі. Як правіла, на тэрыторыі адной краіны можа жыць процьма плямёнаў і кланаў (рэкардсмен тут Дэмакратычная Рэспубліка Конга, дзе прапісалася каля 200 народаў). Затое няма на мапе Чорнага Кантыненту дзяржавы народаў групы Банту, якая налічвае 200 мільёнаў чалавек. Такі відавочны картаграфічны абсурд звязаны з тым, што ўсе існуючыя дзяржавы ўзніклі на базе былых еўрапейскіх калоній, межы паміж якімі былі праведзеныя абсалютна штучна.

У выніку сёння мы маем тую ж Малі, поўнач якой займаюць мусульмане-туарэгі, а поўдзень — франкамоўныя чарнаскурыя. Розніца ў культурах, формах гаспадаркі, мовах, традыцыі, безумоўна, спрыяе росту сепаратысцкіх настрояў на поўначы, следствам чаго і стаў апошні канфлікт. Падобная сітуацыя назіраецца не толькі ў Малі. На цяперашні час феномен палітычнага сепаратызму вядомы ў 24 афрыканскіх краінах. Некаторыя партыі даўно выйшлі за рамкі дэкларацый. Так, фактычна экстэрытарыяльнымі з'яўляецца Самалілэнд (частка Самалі). Увогуле, афіцыйнага прызнання ад міжнароднай супольнасці цяпер дабіваюцца пяць самаабвешчаных дзяржаў у Афрыцы.

Гэта без уліку кавалкаў зямлі, якія кантралююцца крыміналам, накшталт памежжа паміж Нігерыяй і Нігерам, якое даўно захапілі кантрабандысты. Іхнім аўтарытэтам чамусьці пакуль не стукнула ў галаву абвясціць сябе змагарамі за рэгіянальную незалежнасць.

Як часта бывае, нацыяналізм ёсць у вачах шмат каго формай барацьбы за сацыяльную справядлівасць. Абсалютная штучнасць межаў, шматэтнічны склад насельніцтва і слабая дэмакратычная культура ў афрыканскіх дзяржавах часта прыводзяць да таго, што прадстаўнікі нейкага этнасу захопліваюць усе галоўныя дзяржаўныя пасады ў краіне. З улікам татальнай беднасці ўзнікае формула сацыяльнага ліфта па-афрыканску: ратацыя пануючых у краіне этнічных кланаў, у тым ліку з дапамогай зброі.

Нельга сказаць, што гэта праблема штучнасці межаў абсалютна новая. Як толькі на пачатку 1960-х гадоў у Афрыцы пачаўся працэс дэкаланізацыі, сярод мясцовых палітыкаў узнікла група, якая патрабавала рэвізіі каланіяльнай картаграфіі. У заснаванай у 1963 годзе Арганізацыі афрыканскага адзінства па пытанню межаў змагаліся фракцыі Касабланка і Манровія. Першыя патрабавалі новых межаў у адпаведнасці з Вільсанаўскім прынцыпам: адзін народ — адна дзяржава. Другія схіляліся да таго, каб не чапаць старыя кардоны. Перамаглі другія. Хутка была прынята рэзалюцыя, якая забараняе сябрам Арганізацыі афрыканскага адзінства пераглядаць існуючых з канца XIX стагоддзя межаў.

Тое рашэнне было прынятае ў атмасферы эйфарыі ад толькі што атрыманай незалежнасці. Першыя гады існавання новых афрыканскіх дзяржаў быццам давалі правільнасць той рэзалюцыі. Фармаванне новых дзяржаў прывяло да палітычнай і эканамічнай інтэграцыі ў рамках тых самых дзяржаваў. У дадатак стварэнне сваіх мытняў стала важнай часткай падатковай палітыкі. Аднак палітычная нестабільнасць і эканамічная слабасць у выніку падарвалі працэс фармавання новай ідэнтычнасці ў жыхароў былых калоній. Яны перш за ўсё адчуваюць прыналежнасць да клану, а пасля — да дзяржавы. Напрыканцы 1980-х гадоў Афрыка ўступіла ў зацяжную эпоху міжэтнічных войнаў, якая, як паказвае сітуацыя ў Судане і ў Малі, фактычна працягваецца дасюль.

У 2009 годзе Нікаля Сарказі, тады яшчэ ў статусе прэзідэнта Францыі, падчас візіту ў Конга прызнаў: «Рана ці позна будзе патрэбны дыялог вакол пытання, па якім прынцыпе ў гэтай частцы свету дзеліцца зямля і багацці».«Гэтая неасцярожная заява выклікала трывогу сярод урадаў краін рэгіёну вялікіх афрыканскіх азёраў, дзе яшчэ не зажылі раны пасля Другой Кангалескай вайны (1998–2008), у якой удзельнічала больш за дваццаць узброеных груп, што прадстаўлялі дзевяць дзяржаў. У выніку загінула 5,4 мільёна чалавек.

Але, як піша адзін кенійскі палітолаг, само жыццё ў гэтым стагоддзі паставіць пад пытанне канфігурацыю цяперашніх краін Афрыкі. Гэта можа быць або набіраючы моц рух сепаратыстаў, што фактычна прывядзе да таго, што колькасць непрызнаных дзяржаваў стане крытычнай і міжнародная супольнасць пагодзіцца на змены на палітычнай карце. Або дзяржавы пачнуць фармаваць больш цесныя эканамічныя і палітычныя блокі, каб разам шукаць месца пад сонцам, што таксама можа прывесці да памежных канфліктаў. Такім чынам, лепш тэрмінова пачаць дыскусію наконт новых прынцыпаў мяжы.

Аргументы апанентаў гучаць не менш пераканаўча. Пачаць можна з таго, што тэрмін «натуральная мяжа» паміж народамі — абстракцыя. Межы заўсёды былі штучнымі. Акрамя таго, што добрага будзе, калі замест цяперашніх дзяржаў у Афрыцы ўзнікне цэлы калейдаскоп монаэтнічных дзяржаўных адзінак. Нават калі браць па мінімуму, гэта значыць 500 новых дзяржаў.

Не зразумелая і метадалогія вызначэння новага міждзяржаўнага падзелу. Камісія, якая пачне займацца гэтым пытаннем, відавочна, павінна будзе разглядаць праблему прыналежнасці тэрыторый пачынаючы з дакаланіяльных часоў. У выніку на стварэнне такога рапарту ў кантынентальных маштабах можа спатрэбіцца дзесяцігоддзе. І яшчэ не зразумела, ці прызнаюць самі мясцовыя ўрады вынікі справаздачы.

Заказчыкам такога праекту можа стаць нейкая аўтарытэтная наднацыянальная структура, напрыклад, Афрыканскі саюз, які ў 2002 годзе прыйшоў на змену Арганізацыі афрыканскага адзінства. Аднак вельмі сумнеўна, каб АС выступіў за знішчэнне «стыгматаў каланіяльнай эпохі» (так часта называюць існуючыя ў Афрыцы межы). Апошнім часам у лідараў гэтай арганізацыі папулярная думка, нібы хваля сепаратызму шмат у чым звязаная з тым, што на сімптомы хваробы рэагавалі вельмі позна. Цяпер, быццам, любыя праявы сепаратызму можна лакалізаваць дзякуючы выканаўчым структурам Афрыканскага саюзу, які па статуту мае шырокія паўнамоцтвы. Напрыклад, у 2007 годзе пад эгідай АС была арганізаваная міратворчая акцыя ў Дарфуры. Зараз чакаецца рашэнне ААН пра тое, што падкантрольныя АС вайсковыя часткі будуць адказваць за нармалізацыю сітуацыі ў Малі.

Яшчэ адзін спосаб супрацьстаяння сепаратыстам — інстытуцыянальныя рэформы. Першай на такі крок пайшла Нігерыя, якая вярнулася да федэратыўнага прынцыпу, што дазволіла, быццам, знізіць напал паміж мусульманамі і хрысціянамі. Цяпер федэрацыяй, хутчэй за ўсё, стане і Малі.

Нельга не ўзгадаць і пазіцыю прыхільнікаў канцэпцыі панафрыканізму, якія лічаць, што афрыканскай цывілізацыі характэрны свой, адрозны ад еўрапейскага, светапогляд, які распаўсюджваецца і на пытанні права. Панафрыканісты мяркуюць, што тэрмін «дзяржаўная мяжа» ўвогуле навязаны афрыканцам Захадам. Таму трэба вярнуцца да традыцый і адмяніць усе межы ўнутры Афрыкі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЁРГ-УВЕ ХАН



Адзін з лідараў нямецкай «Партыі свабодных дэмакратаў» (FDP) у зямлі Гесэн у інтэрв'ю мясцоваму выданню сказаў, што нямецкаму грамадству спатрэбіцца шмат часу, каб звыкнуцца з думкай, што віцэ-канцлер можа выглядаць як азіят. Гаворка, натуральна, пра лідара FDP Філіпа Ростлера (этнічнага в'етнамца, якога ўсынавілі нямецкія бацькі). Непаліткарэктная прамова адразу зрабіла Ёрга-Уве аб'ектам крытыкі, асабліва з боку левых, якім выгадна, каб лібералы не прайшлі ў Бундэстаг на восеньскіх выбарах. У такім разе кансерватары Ангелы Меркель не будуць мець парламенцкай большасці, што дае эсдэкам і зялёным шанец сфармаваць урад. Усе партыі левага спектру патрабавалі сыходу Хана з зямельнага ўраду, дзе ён узначальвае міністэрства інтэграцыі, якое непасрэдна змагаецца з расісцкімі забабонамі. Цікава, што сам Філіп Ростлер заявіў, што абсалютна не пакрыўдзіўся на свайго партайгеносе. Застаецца дадаць, што гэта другі гучны скандал з удзелам лібералаў за апошні час. Дасюль шмат спрачаюцца пра артыкул у часопісе «Stern», дзе 29-гадовая журналістка апісала, як Райнер Брудэрле, 67-гадовы сябра FDP, у нейкім бары нахабна паклаў ёй рукі на грудзі і лез пад спадніцу. Адны лічаць, што гэта сэксізм. Іншыя звяртаюць увагу, што «Stern» рэкламуе сябе як фрывольнае выданне і, магчыма, Райнер стаў ахвярай карпаратыўнага іміджу. Застаецца пачакаць вынікаў свежых сацыялагічных апытанняў, каб даведацца, як апошнія скандалы паўплывалі на рэйтынгі FDP.

### ІГАР ДАДОН



Лідар Сацыялістычнай партыі Малдовы 5 лютага арганізаваў у Кішынёве Форум левай альтэрнатывы, які павінен быў аб'яднаць усе партыі левацэнтрысцкага накірунку, што выступаюць, з аднаго боку, супраць кіруючага ў краіне Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю, а з іншага — супраць кампартыі Малдовы, якая цягне краіну ў Мытны саюз. Стаўка праекта Дадона вельмі вялікая — адцягнуць у камуністаў галасы левых выбаршчыкаў і не даць ім атрымаць на выбарах у наступным годзе парламенцкай большасці. Мерапрыемства пакінула супярэчлівае ўражанне. Хаця ў ім прынялі ўдзел аж пяць партый, галоўны госць — Партыя рэгіёнаў Малдовы, якая кантралюе Гагаузію, — нечакана ад удзелу ў Форуме левай альтэрнатывы адмовілася. Без гагаузаў Альтэрнатыва можа набраць максімум 3 працэнты, а гэтага мала, каб у Малдове не адбылся чырвоны рэванш. Між тым, відавочна, што бітва за малдаўскі левы электарат толькі распачынаецца. Не дарма, каментуючы правядзенне Форуму левай альтэрнатывы, Уладзімір Варонін заявіў, што камуністы пакідаюць за сабой права правядзення аранжавай рэвалюцыі пасля наступных выбараў. Трывога Вароніна таксама звязаная з тым, што Канстытуцыйны суд можа канчаткова забараніць выкарыстанне слова «камуністычная» ў назве партый. А гэта будзе значыць неабходнасць змены назвы партыі Вароніна, якая, хутчэй за ўсё, будзе таксама называцца сацыялістычнай.

### ГАННА ГРОДСКА




Транссэксуал, сябра польскага парламенту ад партыі «Рух Палікота» — яшчэ той арыгінал. Ні ў адным еўрапейскім парламенце няма транссэксуалаў (ва ўсім свеце іх усяго тры). Аднак на гэты раз Ганна замахнулася на тое, каб стаць віцэ-спікерам Сейму. Такі шанс ёй выпаў пасля таго, як «Рух Палікота» запатрабаваў зняць з пасады віцэ-спікера прадстаўніка сваёй фракцыі Ванду Навіцку за тое, што яна пагадзілася ўзяць ад дзяржавы прэмію 40 тысяч злотых. Балаціроўка Ганны выклікала шмат дэбатаў у польскім грамадстве наконт праблем талерантнасці. Левая і прагрэсіўная публіка разглядала яе як трыумф дэмакратыі ў Польшчы, дзе прызнаюцца правы ўсіх грамадзян. Правыя і кансерватары пабачылі тут замах на каштоўнасці большасці палякаў. Найбольш радыкальныя перайшлі ўсе этычныя межы. Так, адна з дэпутатак ад партыі «Права і справядлівасць» заявіла, што Гродска павінна давесці права называцца жанчынай, паколькі твар у яе, як у баксёра. Цяжка зразумець, нашто было столькі эмоцый, паколькі правал Гродскай быў прадказальны. 8 лютага яе кандыдатуру падтрымалі толькі каля 40 парламентарыяў (супраць было 245). Праўда, на гэтым гісторыя не закончылася. Напярэдадні некалькі судовых працэсаў за абразу асобы пані Гродскай, у тым ліку і за словы пра «твар, як у баксёра».

ВІЛЕНСКАЯ ШКОЛА

# БРАНІСЛАЎ ЯМАНТ — МАСТАК З-ПАД ЛІДЫ

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Працуючы над папулярным слоўнікам-каталогам заходнебеларускіх мастакоў і творцаў міжваеннага перыяду, я проста не мог абмінуць Браніслава Ямата. Тым больш, што летась творчая супольнасць адзначыла 125 гадоў з дня яго народзінаў. Тым больш, што ён — наш зямляк з-пад Ліды. Тым больш, што ён — мастак з кагорты выбітных, чыя творчасць аказала вялікі ўплыў на фармаванне заходнебеларускай плыні жывапісу.**



У польскім мастацкім жыцці мастак Браніслаў Ямант заслужыў сабе памяць, беларусам жа яшчэ адкрываць яго і адкрываць

## Першыя крокі

Будучы прафесар Віленскага, а па Другой сусветнай вайне і Toruньскага ўніверсітэтаў, мастак Браніслаў Ямант (1886–1957) нарадзіўся ў старажытным мястэчку Дакудава (згадваецца ў 1392 годзе), у якім апрача каталіцкага касцёлу (1533 год) і кальвіністкай суполкі ад 1763-га была яшчэ і ўніяцкая царква.

Прозвішча Ямант, хоць і не дужа распаўсюджанае ў былым ліцвінскім краі, але і не чужое для беларуска-літоўскай шляхты, а ў нечым і «знакавае». Краязнаўца з Ліды Станіслаў Суднік не выключае, што яго можна звязаць з прозвішчам нарачонай Кастуся Каліноўскага. Бо бацька Марыі Ямант, што нарадзілася ў Вільні, Тадэвуш, быў упраўляючым маёнтка князя Вітгенштэйна, гаспадара Дакудава. Невядома, як складаўся лёс шматлікай сям'і ўдзельнікаў паўстання пасля вяртання з сібірскай высылкі, але пэўна, што ў 1886 годзе ў сям'і дакудаўскага Казіміра Ямата нарадзіўся першынец. (Малодшы брат Браніслава стаў дырэктарам аддзялення Віленскага гандлёвага банка ў Лідзе і памёр у 1932 годзе ва ўзросце 35 гадоў).

Першай мастацкай установай юнака Браніслава была «Віленская рысавальная школа» Івана Трутнева. Па настаянні бацькі мастака, у лёс «упліўшчыўся» юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэту, праўда, з самастойнымі заняткамі маляваннем і адначасовым наведваннем Акадэміі мастацтваў. Але ненадоўга. Плынь размеранага жыцця парушыла знаёмства з творамі на той час вядомага ў Польшчы амаль што нароўні з Янам Матэйкам мастака ўкраінскага паходжання — Яна Станіслаўскага.

Гэта быў мастак імпрэсіяністычнага накірунку, але, з гледзішча аўтара гэтага нарыса, яго ўплыў у творчасці Ямата праглядаецца менш, чым іншых. У прыватнасці, у падыходах Ямата да натуры, камерна-выразным (драматычным) супастаўленні віруючых аблокаў з млынам, домам, дрэвам, усё ж было болей рамантычнага ўплыву творчасці Рушчыца або сімвалізму Стаброўскага, чым Станіслаўскага.

Па вяртанні ў Вільню з пленэра ў Кракаве і Закапанэ Браніслаў Ямант працуе хатнім настаўнікам малявання ў навакольных фальварках, а з вайной перабіраецца на дзяржаўную пасаду выкладчыка малявання ў рэальную школу Гомеля. Зноў жа ненадоўга.

Як цалкам саспелы мастак, ён дэбютаваў на выставе Артыстычнага таварыства ў Вільні ў 1915 годзе. Але сапраўдны ўзлёт адбыўся ў 1919 годзе, калі варшаўскай «Захэнтай» былі набыты дзве ягоныя працы. У 1924 годзе на агульнапольскай выставе Ямант быў узнагароджаны залатым медалём, а яшчэ праз колькі гадоў атрымаў найвышэйшую ўзнагароду за жывапіс. Зрэшты, недахопу ў паказах (самых прадстаўнічых) ён не меў ніколі. Выставы яго (ці з ягоным удзелам) пасьпяхова праходзілі ў Вільні, Варшаве, Гданьску, Парыжы, Брусэлі, Манака…

## Творчы даробак

Крытыка ва ўсе часы была ўважлівай да творчасці Браніслава Ямата і не раз адзначала, што ён дасканала выяўляе натуру, яе асаблівасці і каларыстычныя мажлівасці.

Пры фантастычнай энергіі і працаздольнасці, ад 1915 года — за трыццаць гадоў творчасці — ён выканаў (па ўласным прызнанні) больш за 1000 прац. Толькі ў фонды Музея Народовага мастак перадаў 48 альбомаў з эскізамі і накідамі.

Але так сталася, што, на жаль, планаваная ў Варшаве выстава да сотых угодкаў з дня народзінаў не адбылася. Адпаведна, не быў выдадзены зводны каталог твораў, які ёсць зарукай пачатку вывучэння тэмы. Апрача звестак у «Слоўніку польскіх дзеячаў мастацтваў» (т. 3), і «Польскім біяграфічным слоўніку» (т. 10), найбольш грунтоўнай працай, прысвечанай Яманту, з'яўляецца ўжо цытаваны артыкул Яна Катлоўскага, перадрукаваны «Лідскім летапісцам».

## У коле паплечнікаў і аднадумцаў

У Вільні 1920-х гадоў Браніслаў Ямант не толькі шчыльна кантактаваў з колам асобаў свайго пакалення — Людамірам Сляндзінскім, Ежы Гапэнам, Антонам Роўбам, Стэфанам Нарэмбскім, але і з мастакамі сярэдняга і старэйшага веку. Ён займеў непахісны аўтарытэт у прафесійных колах.

Ямант разам з Чаховічам і Роўбам увайшлі ў ініцыятыўную групу па стварэнні прафесійна-творчай суполкі — WTAP (Віленскае таварыства артыстаў-пластыкаў). На сходзе мастакоў 28 мая 1920 года, што адбыўся ў памяшканні калісь любага маладому Купалу віленскага Zielonaga Sztralliu, быў зацверджаны статут і абрана кіраўніцтва арганізацыі, а таксама запачаткаваны часопіс «Poiudnie» (рэдактар Станіслаў Вазніцкі). Сваёй задачай таварыства ставіла «пашыраць культуру ў Краі». Прэзідэнтам WTAP абралі Людаміра Сляндзінскага.

Браніслаў Ямант належаў да групоўкі мастакоў (як раманцыкаў, так і рэалістаў), што кансалідавалася якраз вакол гэтага віленскага мастака ў трэцім пакаленні, вучня Зм. Кардоўскага. Менавіта Сляндзінскі вылучыўся як аўтарытэтны ідэолаг віленскай мастацкай школы. І менавіта ён падштурхнуў крытыкаў і знаўцаў да актуалізацыі гэтага азначэння — «віленская мастацкая школа». Уплыў ягоны быў настолькі моцны, што па тамтэйшай мастацкай супольнасці загуляла хвароба (манера) — «а ля Сляндзінскі», узорам для якой былі прыклады творчасці Францішка Смуглевіча і Яна Рустэма, а дэвізам і зарукай поспеху слоган «Спакой і гармонія».

Гісторык мастацтва Ян Катлоўскі настойвае на тым, што вызначэнне «віленскі асяродак», ці «віленская школа» (неакласіцызм ці неарэалізм), якія звычайна атаясамліваюць з памкненнямі Сляндзінскага, хутчэй прыдуманыя, чым «прымальныя».

Разумеючы прычыну яго абвяржэння існавання «віленскай школы», нагадаем, што сам паняцтак упершыню афіцыйна быў ужыты Т. Дабравольскім у 1928 годзе. Але яшчэ ў 1925 для мацавання краёвасці і ліцвінскіх традыцый у культуры ў Вільні быў адроджаны выпуск «Tygodnika Wilenskaga», які мусіў быў працягваць традыцыі пачатку XIX стагоддзя. Ямант быў адным з ілюстратараў і актыўным удзельнікам выдання.

## Творца

Графічны талент Ямата ўвасабляўся на паперы (іншым часам на кардоне) у акварэлях, працах тэмперай альбо гуашшу. Не спакусіўся ён на выбух шматлікіх друкаваных графічных тэхнікаў у класічна ўстойлівай Вільні, застаўся адданым арыгінальнай графіцы і жывым фарбам, захаваў галоўную тэму сваёй творчасці — натурны краявід. Мастацкія пошукі яго, пры захаванні рэалістычнай формы, па большасці ішлі ў рэчышчы перадачы нюансіровак настрояў.

Напраўду кажучы, ён трохі перахварэў на фармалістычныя пошукі: выкарыстанне абстрактнага колеру ды дэкаратыўна-намысленыя стылізацыі формы («Фантастычны краявід», «Краявід з каплічкай»). Адбылося гэта пад уплывам мінчука Стржэмінскага, падчас яго нядоўгага пражывання ў Вільні, усплёску актыўнасці Кайрукшціса. След гэтага ўплыву заўважны ў выставе «Новае мастацтва», што была наладжана трынаццаццю сябрамі WTAP 2 чэрвеня 1923 года. Але гэтая выстава, у якой браў удзел Ямант (як і папярэдняя), хіба толькі «зазначыла след… канструктывісцкага авангарду», але моцнага розгаласу ў грамадстве не мела.

Невядома, ці то пад уплывам аднакашніка Язэпа Драздовіча па школе Трутнева, ці захавальніка мастацкіх традыцыяў ліцвінства Сляндзінскага, ці па ўласным рашэнні, Браніслаў Ямант у 1928 годзе, далёка ўжо не маладзёнам, садзіцца на студэнцкую лаву. Але відавочна, што рашэнне гэта было самастойным і глыбока прадуманым.

Ён адчуў неабходнасць запоўніць адукацыйныя прагалы, неабходнасць сістэматызацыі прафесійных ведаў і ўласнага ўмельства. На гэта наводзіць той канцэптуальны «наіў», тое нешта няўлоўнае, шчыра аматарскае, што яднае яго «Краявід з каплічкай» (захоўваецца ў Toruньскім музеі акруговым) з творамі беларускага «вечнага вандроўніка».

Падчас навучання ў Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя (1928–1931), студэнт Ямант, якому было ўжо пад пяцьдзясят, наведвае Брусэль, Парыж, Рым і Фларэнцыю. А неўзабаве, у 1931 годзе, прафесар Фердынанд Рушчыц запрашае яго на пасаду асістэнта кафедры пейзажа. З-за хваробы прафесара ўжо з 1932 года Ямант фактычна кіруе кафедрай, хаця юрыдычна на гэтай пасадзе ён будзе афармлены ў 1936 годзе, пасля смерці мэтра.

## Эпілог

Як і большасць яго калег, Другую сусветную вайну Ямант перажыў у Вільні. Не пакідаючы творчую працу, удзельнічаў у таемных пасяджэннях сяброў рады Факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя. Сапраўдны ж прыліў сілаў і творчай энергіі адчуў у Торуні, дзе ў пасляваенныя часы з поўнай аддачай займаўся аднаўленнем мастацкага жыцця, стварэннем секцыі прыгожых мастацтваў пры гуманітарным факультэце ўніверсітэта Мікалая Каперніка. У Торуні і Быдгашчу прайшло пяць яго прыжыццёвых персанальных выставаў.

Першы дэкан факультэта прыгожых мастацтваў, прафесар пейзажу і нежывой прыроды, доктар мастацтвазнаўства Браніслаў Ямант памёр 4 лютага 1957 года пасля цяжкой хваробы сэрца.

Як сказаў пра Ямата гісторык мастацтва Ян Катлоўскі, мастак не з'яўляецца невядомай постаццю ў польскім мастацкім жыцці і заслужыў сабе памяць, беларусам жа яшчэ адкрываць яго і адкрываць.

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

Арсень ЛІС

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 3–5**

Адпаведна са стратэгіяй кіруючых колаў даваеннай Польшчы, скіраванай на асіміляцыю беларусаў і ўкраінцаў, на Крэсах праводзілася адпаведная асветная палітыка.

Міністэрствам рэлігіі і асветы было выдадзена распараджэнне, згодна з якім настаўнікі, што адкрывалі школы без дазволу павятовага школьнага куратарыуму, падлягалі турэмнаму зняволенню на паўгода і штрафу. Было нямала выпадкаў прыцягнення да суда маладых беларускіх настаўнікаў на Беласточчыне і Гродзеншчыне.

Асветныя інспектарты абсаджваліся, як правіла, выхадцамі з карэннай Польшчы і Галіцыі, і то былі адмысловыя культрэгеры. Беларускае сярэдняе школьніцтва, гімназіі ў Гарадку, Радашковічах, Клецку, Навагрудку, Вільні, семінарыя ў Барунах, не прызнаваліся раўнапраўнымі з польскімі аналагічнымі вучэльнямі. Каб атрымаць т. зв. «матуру», атэстат сталасці, выпускнікі беларускіх гімназій вымушаны былі здаваць дадатковыя іспыты пры польскіх навучальных установах. На шчасце, атэстаты беларускіх (заходнебеларускіх) гімназій, як і беларускіх гімназій, адкрытых у Латвіі, прызнаваліся вышэйшай школай Чэхаславакіі, куды і памкнуліся многія выхадцы з Заходняй Беларусі на здабыццё асветы.

Тым часам беларуская сярэдняя школа, што ўтрымлівалася коштам адно самой беларускай грамадскасці ды самаахвярнасцю настаўнікаў, пільна апякалася дзяржаўнай адміністрацыяй. І самым дзейсным спосабам гэтага апякунства было перыядычнае і паслядоўнае закрыццё той ці іншай беларускай асветнай установы. Ужо ў 1921 годзе была закрытая Барунская настаўніцкая семінарыя, арганізаваная беларускім асветна-грамадскім і палітычным дзеячам С. Ракам-Міхайлоўскім, у 1924-м — Гарадоцкая, у 1928-м — Радашковіцкая, у 1931-м — Клецкая, у 1934-м — Навагрудская. У 1939-м заставалася адна Віленская, і тая як філіял польскай віленскай гімназіі імя Юліюша Славацкага. У снежні 1936 года распараджэннем Віленскага ваяводскага старосты была забаронена дзейнасць арганізацыі «Таварыства беларускай школы» і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

І ці дзіва, што, занатоўваючы гэты жорсткі летапіс, унуку дзеда Петрака Ліса з Вётхава, дарэчы, знаёмага з Ракам-Міхайлоўскім, успамінаюцца апошнія дзедавы словы-запытанне, аброненыя ім вясной 1932 года на парозе вечнасці: «Ці скора прыйдуць бальшавікі?» Дзед пытаўся пра тое перад сконам у пакліканых маткай сыноў. Старэйшы з іх, Іван, які толькі выйшаў з Лукішскай турмы, і падстаршы Жэня, які вярнуўся з чыннай службы ў Польскім войску, рыхтаваліся сысці праз «зялёную граніцу» на Усход.

А на Усходзе тым часам нібы займалася, занялася зара надзеі. Там, здавалася, улада была ў руках рабочых і сялян, а не паноў. І пэўна ж не пакрыўдзяць уладныя браты па класу свайго брата, сыноў заходнебеларускага селяніна.

Пасля арыштаў лідараў і актыву Беларускай сялянска-работніцкай грамады на Усход сышло тысяч пяцьдзясят-семдзясят — ніхто не лічыў — грамадска актыўнай моладзі. Ведаю, з нашай Залескай ваколіцы, на Смаргоншчыне, перайшло граніцу каля сотні хлопцаў і дзяўчат. З Вётхава, вёскі малой, — сем чалавек, з Сівіцы — каля дваццаці. Ішлі з верай у добрую будучыню, ішлі да сваіх.

Тым часам лёс заходнебеларускіх эмігрантаў аказаўся трагічным. Іхнім родным амаль нікога з сышоўшых насустрач нязнанай будучыні не ўдалося ўбачыць ні пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 годзе, ні пазней. А была ж гэта адметная часціна цэлага пакалення заходнебеларускай моладзі. Яна ўлучала ў сябе рэальных і патэнцыяльных паэтаў, мастакоў, навукоўцаў, палітыкаў, педагогаў...

Маці нярэдка ўспамінала сваю старэйшую сястру Марысю, што аднае ночы пайшла праз «зялёную граніцу» ўслед за сваім будучым мужам Алесем Салагубам, пэўная аб іх трагічным лёсе, трывожна гадала пра долю іх малога сынка. Наогул, у нашай хаце пры сустрэчы сваякоў міжволі ўсплывала гутарка аб сышоўшых. Звязаныя з успамінамі пра зніклых родных перажыванні, думкі моцна трымаліся ў свядомасці пакалення маіх бацькоў. І, здаецца, ці не гэты якраз горкі жыццёвы вопыт няўзнак клаўся ў аснову погляду старэйшага пакалення на савецкую ўладу як такую? Бываў недавер да моўленага і робленага яе высокімі прадстаўнікамі ды спраўцамі іхняй ідэалогіі, малога і сярэдняга рангу функцыянерамі.

Разабрацца ў цякучым жыцці, зарыентавацца ў афіцыйнай ідэалогіі і рэальнай палітыцы, якую яна прыкрывала, як цяпер разумею, мне найболей дапамагла літаратура, беларускае мастацкае пісьменства. Менавіта тое наша краснае пісьменства першай чвэрці XX стагоддзя, якое развівалася без дзяржаўнай падтрымкі, апекі і без чыёй бы тое ні было прынукі, а як вольнае слова, літаратура «нашаніўскай» пары. А яшчэ заходнебеларуская, віленская перыёдыка 1920–1930-х гадоў — сапраўдная люстра беларускага жыцця, лёсу пакалення даваеннага часу.

Калі вучыўся ў Смаргонях, недзе ў 8-м класе ад аднакласніка Юзіка Сідаровіча дастаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» Ігната Дварчаніна. Старэйшы Юзікаў брат у вайну вучыўся ў Вільні. Там была тады ўзноўлена Віленская беларуская гімназія і адкрыта семінарыя. Ад навучэнцаў іх і трапіла ў нашы ваколіцы спора беларускіх кніжных выданняў, пазасталых у Беларускім музеі і кнігарнях ад узднымных 20-х гадоў, калі Вільня



Крайні справа — Арсень Ліс, ад яго — Іван Яшкін, Іван Марчанка, Іван Цішчанка, Алесь Яскевіч



была культурным і палітычным цэнтрам Заходняй Беларусі.

Яшчэ да таго, як рынуцца ў вялікую палітыку, адразу пасля заканчэння Пражскага ўніверсітэта, Дварчанін, ужо паднатарэлы ў літаратуразнаўстве, склаў і выдаў у 1927 годзе, сабраўшы пад адну вокладку ўсё лепшае, што было створана ў навейшай беларускай літаратуры, пачынаючы з 1905 года.

Змешчаным творам пісьменнікаў у «Хрэстаматыі» папярэднічалі накіды біяграфій, сціслая характарыстыка творчасці, бібліяграфія. Галоўнае ж, Дварчанінава «Хрэстаматыя» давала ўяўленне і пра пісьменнікаў, творчасць, нават імёны якіх не згадваліся ні ў школьнай праграме, ні ва ўніверсітэцкім курсе па беларускай літаратуры. Было адкрыццём апавяданні Максіма Гарэцкага, вершы Алеся Гаруна, апавяданні Уладзіслава Галубка і яго верш «Будучыня», аповеды-легенды Власта (Ластоўскага), «Няскончаная драма» Францішка Аляхновіча...

Траплялася і нешта зусім не вядомае з паэзіі Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Памніцца, як у скрушныя мінуты одуму, расчаравання ў беларускім літаратурным жыцці 1950-х мацавалі мой дух вершы з «Хрэстаматыі» Ігната Дварчаніна. Неяк восенню 1952-га, жыў тады студэнтам на прыватнай кватэры па вуліцы Талстога, адвячоркам доўга мераў крокамі падворак гаспадыні, дэкламуючы ўголас верш Алеся Гаруна «Ты мой брат, каго зваць беларусам, роднай мовы сваёй не цурайся». Чытаў доўга. Давёў дэкламаванне да максімуму сваіх дэкламарскіх здольнасцяў.

Якраз недзе тым часам сам склаў верш, які розніўся ад майго вучнёўскага вершавання ў нашым Смаргонскім літгуртку, дзе мы з Борам Кастаненкам, Жорам Янчуковічам, Антонам Субачам, Лёнем Соснам ды Міхасём Царыкам «выдавалі» рукапісны часопіс «Наш край», пазней перайменаваны на «Росквіт».

*Мне ў вуснах песні не стрымаць,*
*Яна на волю птушкай рвецца,*
*Сябрам жадае расказаць,*
*Як мае сэрца горда б'ецца*
*І як, стаміўшыся, яно*
*Сумуе ў нейкай цяжкай скрусе*
*Аб днях, што згінулі даўно,*
*Аб лёсе роднай Беларусі,*
*Аб дзікім церні тых шляхоў,*
*Што ногі ранілі балюча.*
*Радзіма, усіх тваіх сыноў,*
*Што і мяне сягоння мучаць...*

Натуральна, я яшчэ не ведаў пра мора людскіх пакут, маштаб ахвяр злачыннага таталітарнага рэжыму. Цярновыя ж, трагічныя дарогі беларускай творчай інтэлігенцыі пазнаваў, адчуў рана. Фігуральна кажучы — ад роднага парогу. Маці часта вярталася памяццю да Алеся Салагуба, згадвала той ці іншы ягоны верш, спявала песні на яго словы. Трапіўшы ў Мінск, студэнтам першага курсу, не раз, блукаючы па вуліцах завакзалля, прыкідваў у думках, дзе ён з Марысяй і маленькім сынам маглі тут жыць да арышту, высылкі.

У «Литературной энциклопедии», гэтым самавітым выданні 20-х гадоў, яна мелася ў Беларускім кабінеце на філфаку, шукаў звестак не толькі пра Алеся Салагуба, а пра цэлае пакаленне маладых беларускіх літаратараў. Ведаў, што многія з іх былі арыштаваныя, высланыя і наўрад ці засталіся дзе жывыя.

Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Гаўрылу Гарэцкага... удалося ўбачыць жывымі ды яшчэ нешта ад іх пачуць, прачытаць з напісанага, створанага імі. Уладзіміра Дубоўку ўпершыню ўбачыў, пачуў у рэдакцыі «Мастацкай літаратуры» Дзяржвыдата, дзе з лета 1957 года мне пашчасліваіла працаваць.

У рэдакцыю «Мастацкай літаратуры» Белдзяржвыдата аднаго дня зайшоў высокі, шыракаплечы, барадаты, у доўгім кажуху мужчына. Вітаючыся моцным поціскам рукі, назваўся «Уладзімер Дубоўка». За ім укацілася, менавіта гэта слова пасавала да яго, таўставаценькі, нізкага росту Алесь Кучар. Як я потым даведаўся, афіцыйна асоба заслужаны крытык. Ішлося аб выданні выбраных твораў Дубоўкі, фактычна аб вяртанні аж праз 27 год паэта, авангарднага ў 1920-я гады, у літаратуру канца 1950-х.

Вяртанне тое, пэўна, было яшчэ не без аглядкі. Прадмову да «выбранага» Дубоўкі пісаў паэт-акадэмік Пятро Глебка. Пісаў Пётр Фёдравіч прадмовы-блаславенні і да выдання твораў іншых паэтаў, раней не друкаваных з ідэалагічных меркаванняў. Напрыклад, з яго прадмовай выходзіў пасмяротна зборнік паэта Аркадзя Моркаўкі, які пазбег рэпрэсіі, але затаіўся з выступленнем у друку ажно на чвэрць веку, ціха працуючы інжынерам у прадпрыемстве мераў і вагі. Першае знаёмства беларускага савецкага чытача з паэзіяй Ларысы Геніюш таксама адбылося з прадстаўленнем яе ў часопісе «Полымя» Пятром Глебкам. Тое, што ён стратэгічна глядзеў на беларускую гуманітарную навуку, пераканала мяне пазней, калі трапіў на вучобу ды працу ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, якім ён кіраваў.

А што да Дубоўкі, то трохі разгаварыўся ён у нас, у рэдакцыі, падчас другога свайго наведвання, калі кніга яго выйшла ў свет. Паэт атрымаў ганарар, сказаў, што першы літаратурны за апошніх 27 гадоў. «Звычайна, — узгадаў, — распісваўся ў ведамасцях за змайстраваныя столькі і столькі стулляў, табурэтак...» Сталяраваў на выгнанні. Меў прадпісанне на забарону пісаць.

І яшчэ неяк, на жаль, не помніцца кантэкст, пачулі: «Бывала па-рознаму, без ніякага ганарару. Пры вывадзе на работу і з яе за плечы хапалі ахоўніцкія аўчаркі». Мы з Іванам Пташнікавым, ён таксама тады быў супрацоўнікам рэдакцыі «Мастацкая літаратура», міжволі аглянуліся на яшчэ не прыгнутыя часам, нялёгкай жыццёвай дарогай плечы паэта. Мне з той даўняй пары запала ў памяці, зрэдзь час згадваецца Дубоўкава:

*Там, на Беларусі, дзе пачаў*
*жыццё,*
*Чуў я не аднойчы,*
*як шуміць трысцё.*
*Бы цымбалаў струны —*
*роўныя рады*
*Гаманілі з сумам над ракой*
*тады.*
*Казак тых забыўся, на выгнанні*
*дзеў,*
*Песні расплыліся, як туман*
*між дрэў.*
*Што ж стукочаш сэрца*
*і крынічыш кроў, —*
*Таямнічых казак*
*не вярнуць ізноў.*

* * *

У Шаркоўшчыне я не заседзеўся, хоць не магу сказаць, што надакучыла мне ў гэтым простым заходнебеларускім мястэчку, зніякавела. Зіма прайшла зусім ніштавата. Духам трымаўся на працы ды дачытванні прывезеных з Мінска манаграфій аб кампазітарах, мастаках, пісьменніках. Крыху на нечым сваім, беларускім. Якраз у шаркаўскай кнігарні набыў томік вершаў Уладзіміра Хадыкі ды паэтычны зборнік Алеся Звонака «Табе адной». Не ўдаваўся, што паэт меў на ўвазе ў назве сваёй кніжкі, але да душы многія рэчы прыпадалі. Уражваў Хадыка сваёй ёмістай паэтычнай думкай:

*«Дзень вырас, як волат,*
*з світальнай зары*
*І рынуўся ў свет малады*
*і бадзёры».*

І яшчэ смелым эгацэнтрызмам маладога мастака слова:

*«Ускапаю дзедаўскі дрыботнік,*
*Да каліва перабяру,*
*І што не змог народ-нямотнік,*
*Я за яго дагавару».*

ЛЁС У ФОТАЗДЫМКАХ

# СЯРГЕЙ НОВІК-ПЯЮН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Бог дараваў яму шмат талентаў. Ён быў паэтам, мастаком, кампазітарам, грамадскім дзеячам і выдаўцоў. Але лёс гэтага чалавека выдаўся складаным і выпрабавальным. Сяргея Новіка-Пеюна праследавалі і польскія, і нямецкія, і савецкія ўлады.**



Аляксандра Кліменцьеўна Пышко. Сучасны здымак

Сланімчанка Аляксандра Кліменцьеўна Пышко была замужам за родным пляменнікам Сяргея Новіка-Пеюна — Міхасём Пышком. Міхась Пышко — сын Кацярыны Міхайлаўны Новік — роднай сястры Сяргея Новіка-Пеюна. У паэта было тры сястры — Марыя, Аляксандра (Шура) і Кацярына. Шура жыла на Нясвіжчыне, а Марыя і Кацярына — у Слоніме.

Сяргей Новік-Пяюн любіў бываць у горадзе над Шчарай. Спыняўся ён у Кацярыны, але там не прападаў, бо ў Слоніме ў яго было шмат сяброў. Па словах Аляксандры Пышко, са сваім мужам Міхасём Пышком яна пазнаёмілася ў 1958 годзе ў бальніцы, куды абодва трапілі па хваробе. «Міхасю тады было 18 гадоў. Ён вельмі закахаўся ў мяне, дый мне гэты хлопец спадабаўся. Я тады і не ведала, што яго родны дзядзька Сяргей Міхайлавіч быў паэтам, адбываў тэрмін у сталінскіх лагерах у Якуціі. Гэта потым я ўсё даведалася і ад мужа, і ад сваёй свекрыві Кацярыны Міхайлаўны (сястры Сяргея Новіка-Пеюна) і ад яго самога. Бо ён вельмі любіў майго Міхася. Яны шмат гутарылі пра жыццё, пра Беларусь, пра наш лёс», — падчас сустрэчы пачала распавядаць Аляксандра Кліменцьеўна.



Кацярына і Шура Новікі — родныя сёстры Сяргея Новіка-Пяюна, 1930-я гады

«А ці праўда, Аляксандра Кліменцьеўна, што ваша свякроў некалі вышыла Пагоню. І трымала ў сябе яе да таго часу, пакуль не забраў Пагоню Сяргей Новік-Пяюн?» — пытаюся ў спадарыні Пышко. «Магчыма. Але я Пагоні не бачыла. Толькі ведаю, што мая свякроў, сапраўды, вельмі добра вышывала. Аляксандра Кліменцьеўна пайшла ў другі пакой сваёй кватэры і прынесла вышыты партрэт, на якім дзеці збіраюць у лесе грыбкі, а таксама прыгожа вышываны ручнік. «Вось гэта таксама мая свякроў вышывала», — прызналася жанчына. А потым яна памаўчала і ціха спытала: а дзе цяпер наша Пагоня? «Па маёй інфармацыі, вышытая Кацярынай Новік Пагоня цяпер знаходзіцца ў сховішчы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва», — адказваю жанчыне.

Яна памаўчала, а потым пачала распавядаць, што лёс у Сяргея Новіка-Пеюна аказаўся нялёгкім. Ён быў жанаты, жонку звалі Людміла. У іх было дзве дачкі. «Але жонка з адною дачкою выехала ў Польшчу і больш сувязей з Сяргеем Міхайлавічам яны не мелі. Другая дачка нібыта засталася ў Беларусі, але таксама не кантактавала з ім. Іншыя распавядаюць, што жонка Людміла Новік з дзвюма дочкамі выехала ў Польшчу і там жыла. Адно я ведаю, што жонка і дочкі ніколі пасля лагераў з Сяргеем Міхайлавічам не сустракаліся. Ён толькі ў добрых адносінах быў са сваімі сёстрамі, якіх любіў і якія яго моцна любілі і шанавалі. А яшчэ Сяргей Міхайлавіч вельмі любіў Беларусь», — расказала Аляксандра Пышко.

Сапраўды, у Сяргея Новіка-Пеюна (1906–1994) лёс быў складаны. Яшчэ ў 1930-я гады за актыўную беларускую дзейнасць польскія ўлады «ўпяклі» маладога энтузіяста ў пяцігадовую ссылку на Памор'е (1926–1931), а ў 1931 годзе — пад паліцэйскі нагляд у горад Слонім. Але ж у асяроддзі свядомых беларусаў у Заходняй Беларусі добра ведалі пра Сяргея Новіка-Пеюна. Яшчэ ў 1926 годзе ён надрукаваў свой першы верш «Туга па Бацькаўшчыне» ў «Сялянскай ніве» пад псеўданімам Пяюн. Пазней у часопісе «Заранка» з'яўляюцца вершы для дзетак, падпісаныя псеўданімам Малады Дзядок. Па парадзе Янкі Купалы ў 1939 годзе паэт стаў падпісваць свае творы Сяргей Новік-Пяюн.




www.21.by

У 1940 годзе, пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, ён працаваў інспектарам райана, а пасля па просьбе сябра Язэпа Стаброўскага, бярэцца за арганізацыю гісторыка-краязнаўчага музея і бібліятэкі ў Слоніме. У 1943 годзе за антыфашысцкую дзейнасць быў асуджаны да пакарання смерцю, трапіў у Калдычаўскі лагер, дзе цудам выратаваўся з-пад расстрэлу.

Пасля вызвалення партызанамі з лагера працаваў дырэктарам Слонімскага музея (1944). Здавалася, што нарэшце ўсё дрэннае мінула. Але неўзабаве яго зноў арыштоўваюць. 20 мая 1945 года, калі ўся краіна святкавала перамогу над фашысцкай Германіяй, Сяргея Новіка-Пеюна разам з іншымі «ворагамі народа» пагрузілі ў поезд і адправілі на 15 гадоў у запалярную Якуцію.

Рэабілітаваны Сяргей Міхайлавіч ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі быў 5 лістапада 1958 года. У 1959 годзе, вярнуўшыся на Беларусь, жыў у Слоніме, Нясвіжы, а з 1960 года — у Мінску.

Поўнасцю рэабілітаваны паэт і быў настаўнік нават атрымаў даведку ў адпаведных савецкіх установах, што яму дазваляецца займацца педагагічнай працай. А на запыт Сяргея Новіка-Пеюна ў КДБ, у чым жа яго віна, прыйшла папера, дзе напісана было літаральна наступнае: «Шматпаважаны Сяргей Міхайлавіч, Вы ні ў чым не вінаватыя...»

Яшчэ ў 1930-я гады, жывучы ў Слоніме, Сяргей Новік-Пяюн разам са сваёй жонкай Людмілай зарэгістравалі і пачалі выдаваць на польскай мове "Газету Слонімскую" (на беларускай мове польскія ўлады не дазволілі). Газета была зарэгістравана на Людмілу Новік. Першы нумар газеты выйшаў з друку на Каляды, у нядзелю, 25 снежня 1938 года. Яшчэ два нумары з'явіліся 1 і 8 студзеня 1939 года. Потым газета перастала існаваць: ці то ў Новікаў не хапіла грошай, ці то польскія ўлады яе забаранілі. Праўда, газета была апалітычная, пісала найперш пра грамадска-культурнае жыццё Слонімшчыны, пра здарэнні, змяшчала краязнаўчыя артыкулы і шмат рэкламы. Магчыма, гэта быў апошні прыватны праект у Слоніме па выданню незалежнай газеты напярэдадні прыходу бальшавікоў...

Пра гэта мы таксама доўга гутарылі ў кватэры Аляксандры Кліменцьеўны Пышко. Потым яна дастала з шафы шмат фотаздымкаў і пачала распавядаць пра ўсіх Новікаў, пра іншых сваякоў і сяброў. Сярод сотні фотаздымкаў я адшукаў і даволі рэдкія, якія сёння прапаную ўвазе чытачоў.



Бацькі Еўдакія Пятроўна і Міхаіл Сцяпанавіч Новікі з маленькім Сяргеем. Пачатак ХХ стагоддзя

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 187

Падпісана да друку 15.02.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча